ПРАЛЕТАРЫІ ЎСІХ КРАІН, ЯДНАЙЦЕСЯ!

# Літаратура і Мастацтва

Год выдання 39-ы
№ 58 (2519)
ПЯТНІЦА
6
лістапада 1970 г.

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ НА ШАСНАЦЦАЦІ СТАРОНКАХ.

Цана 8 кап.




КАСТРЫЧНІК—НОВЫХ ДЗЁН СВІТАННЕ,
РАДЗІМЫ НАРАДЖЭННЯ ДЗЕНЬ.
У ВОДСВЕТАХ ТВАЙГО ПАЎСТАННЯ
ЗНІКАЎ СТАРОГА СВЕТУ ДЗЕНЬ.

ТЫ ПЕРАМОЖНА ГОД АД ГОДУ
МАГУТНЫМ ПОСТУПАМ ІДЗЕШ,
СВЯТЛО НЯЗГАСНАЕ НАРОДАМ
ТЫ ПРАЎДЫ ЛЕНІНСКАЙ НЯСЕШ.

ТЫ РАЗАРВАЎ ПРЫГНЁТУ ПУТЫ,
І РЭХА СКАЛАНУЛА СВЕТ.
І СЁННЯ ЧАЛАВЕК РАСКУТЫ
ШЛЯХ ТОРЫЦЬ ДА ДРУГІХ ПЛАНЕТ.

Плакат Л. ЗАМАХА.

**ДЗЕЯЧЫ ЛІТАРАТУРЫ І МАСТАЦТВА, РАБОТНІКІ КУЛЬТУРЫ! ВЫСОКА НЯСІЦЕ СЦЯГ ПАРТЫЙНАСЦІ САВЕЦКАГА НАРОДНАГА МАСТАЦТВА, АДДАЙЦЕ ЎСЕ СІЛЫ І ЗДОЛЬНАСЦІ ВЫХАВАННЮ БУДАЎНІКОЎ КАМУНІЗМА!**

З ЗАКЛІКАЎ ЦК КПСС ДА 53-й ГАДАВІНЫ ВЯЛІКАЙ КАСТРЫЧНІЦКАЙ САЦЫЯЛІСТЫЧНАЙ РЭВАЛЮЦЫІ.

Іван ШАМЯКІН,
сакратар праўлення Саюза пісьменнікаў Беларусі

# УСЛАВІМ ЛЕНІНСКІ ГЕНІЙ

ПЯЦЬДЗЕСЯТ трэці раз савецкія людзі выйдуць на плошчы і вуліцы пад палымянымі чырвонымі сцягамі, каб адзначыць вялікае свята Кастрычніцкай рэвалюцыі, дзень нараджэння першай Краіны Саветаў, дзе ўлада належыць тым, хто сее, косіць хлеб і варыць сталь.

Многа гадоў ужо разам з намі святкуюць Чырвоны Кастрычнік людзі іншых краін, якія з дапамогай Савецкага Саюза будуюць сацыялізм. Краіны гэтыя ўваходзяць у сацыялістычны лагер — апору міру і прагрэсу. Ідэі сацыялізма прыцягваюць усе народы. Аб сацыялізме мараць, да сацыялізма ідуць многія народы «трэцяга свету» — краіны, што вызваліліся з-пад каланіяльнага прыгнёту і вядуць антыімперыялістычную, антыкаланіяльную барацьбу. І яны таксама разумеюць, што сонца іх свабоды, іх вызвалення ўзышло пяцьдзесят тры гады назад, 7 лістапада 1917 года, калі ў Петраградзе з трыбуны Другога з'езда Саветаў Ленін абвясціў пра перамогу Сацыялістычнай рэвалюцыі ў Расіі.

Вось чаму свята Кастрычніка — свята інтэрнацыянальнае, свята для ўсіх, вольных і прыгнечаных, для тых, каго грэе сонца Вялікай рэвалюцыі і для каго яно свеціць пуцяводным маяком — паказвае курс да вызвалення.

Цяпер нават ворагі нашы прызнаюць, што без «рускай рэвалюцыі» ў свеце не адбылося б таго сацыяльнага прагрэсу, і каланіяльная сістэма, у непарушнасць якой так верылі ідэолагі буржуазіі, не развалілася б так імкліва.

За чвэрць стагоддзя колькасць самастойных дзяржаў, што ўваходзяць у Арганізацыю Аб'яднаных нацый, вырасла з 50 да 127. І як бы ні супрацiўляліся імперыялісты Амерыкі, Англіі і іншых краін, на якія б правакацыі ні кідаліся, як бы ні імкнуліся падтрымаць самыя рэакцыйныя рэжымы, накшталт паўднёвав'етнамскага, паўднёвакарэйскага, ізраільскага, нічым ім ужо не спыніць пераможнае шэсце мільёнаў і мільёнаў людзей да свабоды, да сацыялізма.

Год пяцьдзесят трэцяга Кастрычніка, год 1970, для савецкага народа знамянальны ў многіх адносінах, хоць і ўсе іншыя гады нашай сацыялістычнай гісторыі, былі напоўненымі гераічнымі справамі, ратнымі і працоўнымі.

У гэтым годзе ўсё прагрэсіўнае чалавецтва адзначыла 100-годдзе з дня нараджэння таго, хто быў арганізатарам і кіраўніком Вялікай Кастрычніцкай рэвалюцыі, творцам першай сацыялістычнай дзяржавы — Уладзіміра Ільіча Леніна.

Ленінская працоўная вахта рабочых, калгаснікаў, вучоных, мастакоў была адначасова вахтай апошняга завяршаючага года пяцігодкі. Разуменне глыбокага сэнсу сваёй працы ўсім давала падвоеную, патроеную энергію. Пройдзе яшчэ два месяцы і электронна-вылічальныя машыны падсумуюць вынікі пяцігодкі, вынікі ленінскага года — плёну працы мільёнаў і кожнага з нас — радавога і камандзіра вялікай арміі будаўнікоў камунізма.

Мы будзем па-ранейшаму, не пераводзячы дыхання, не робячы прывалаў, памнажаць багацце Радзімы, яе магутнасць і славу. Такая ўжо ў нас мараль, такая традыцыя. У перадсвяточныя дні асабліва напружана працавалі хлебаробы, каб як найлепш закончыць сельскагаспадарчы год, каб ніводнага калiва збажыны і гародніны не засталося ў полі. Ім ёсць пра што рапартаваць партыі, народу.

А нашы будаўнікі, металургі, хімікі, даследчыкі нетраў, транспартнікі! У кожнай галіне — поспехі, якія без перабольшання можна назваць выдатнымі і якімі могуць ганарыцца людзі ўсіх гэтых прафесій, увесь народ.

Зусім нядаўна ўвесь свет быў узрушаны палётам аўтаматычнай станцыі «Месяц-16», якая даставіла ўзоры месячнага грунту. Рыхтуюцца да ўзлёту новыя касмічныя караблі, якія пракладуць маршруты на бліжэйшыя планеты.

Нам, пісьменнікам, мастакам, нялёгка бывае ўгнацца за такімі тэмпамі тэхнічнага і навуковага прагрэсу. Ніхто яшчэ не навучыўся пісаць з касмічнай хуткасцю. Але і мы імкнемся не адстаць ад працаўнікоў палёў, заводаў, лабараторый, касмадромаў. Наша галоўная задача: зразумець, пазнаць пачуцці, думкі, перажыванні тых, хто штогадзінна і штодзённа, часам непрыкметна, робіць свой вялікі подзвіг і расказаць сродкамі мастацтва пра гэтыя пачуцці, раскрыць душы людзей для саміх жа гэтых людзей, раскрыць так, каб людзям стала радасна і захацелася працаваць яшчэ лепш, жыць яшчэ прыгажэй.

Уславім жа Чалавека, як заклікаў вялікі гуманіст Максім Горкі. Уславім савецкага чалавека! І першага з савецкіх людзей, які вечна будзе з намі і будзе весці нас у камунізм, — Уладзіміра Ільіча Леніна!

Уславім партыю камуністаў, якая ідзе да свайго XXIV з'езда, у калектыўным розуме якой увасоблены ленінскі геній!

Віктар ГРАМЫКА,
старшыня праўлення Саюза мастакоў Беларусі

# СВЯТЛОМ КАСТРЫЧНІКА АЗОРАНЫЯ

МЫ СУСТРАКАЕМ пяцьдзесят трэці Кастрычнік. Перад намі наперадзе — ясны краявід. Бо ясная наша мэта — камунізм. Бо ясныя шляхі да нашай мэты. Шляхі, азораныя святлом Кастрычніка. Шляхі развяволенай працы, якая літаральна ва ўсіх галінах стала сапраўднай творчасцю. Шляхі змагання за мір, за лепшую будучыню дзеля кожнага працоўнага чалавека на зямлі, дзеля кожнага чалавека-творцы.

Наша творчасць у прамысловасці, сельскай гаспадарцы, палітыцы, літаратуры, мастацтве, ва ўсіх галінах эканомікі і культуры — абапіраецца на здабыткі самага дасканалага навуковага погляду на парадак рэчаў у свеце — марксізма-ленінізма.

Сёлета мы адсвяткавалі 100-годдзе з дня нараджэння Уладзіміра Ільіча Леніна. А цяпер рыхтуемся да такой важнай падзеі ў жыцці кожнага з нас, якой будзе ў 1971 годзе XXIV з'езд нашай роднай Камуністычнай партыі Савецкага Саюза.

І таму ў гэта кастрычніцкае ўсенароднае свята думкі нашы і пачуцці хінуцца да таго, што мы ўжо зрабілі пад кіраўніцтвам ленінскай партыі і што нам яшчэ трэба зрабіць. Нашы здзяйсненні і нашы планы супадаюць з ходам гісторыі. І мы ўпэўнена глядзім у заўтра. І радасна святкуем надыход пяцьдзесят трэцяга Кастрычніка.

Ад таго, што мы ўзброены марксізмам-ленінізмам, ад таго, што мы ва ўсіх сваіх здзяйсненнях і пачынаннях кіруемся гэтым адзіна навуковым вучэннем аб законах развіцця грамадства і прыроды, мы паспяхова крочым наперад шляхам першапраходцаў новага свету, першапраходцаў камунізма.

І пра гэта не можам не думаць сёння, азіраючыся на пройдзены шлях, углядаючыся ў нязведаны шлях, які наперадзе.

Святлом Леніна, святлом Кастрычніка азораныя, народы Краіны Саветаў, будуючы сацыялізм, набылі новую, самую прагрэсіўную дзяржаўнасць, пазбавіліся эканамічнай і культурнай адсталасці, далучыліся да найвышэйшых, сацыялістычных форм гаспадаркі і культуры. Так і наша Беларусь — роўная сярод роўных братніх сацыялістычных рэспублік.

Узяць, напрыклад, адно толькі яе мастацтва. Зразумела, таго росквіту, які бачым сёння ў мастацтве Беларусі Савецкай, не было б, калі б не тыя сацыяльныя змены, якія прынёс нам, беларусам, Вялікі Кастрычнік. Такога росквіту нашай нацыянальнай культуры не было б, калі б не росквіт нашай эканомікі, нашай прамысловасці і сельскай гаспадаркі. Непазнавальна змянілася за пяцьдзесят тры гады пасля Кастрычніка аблічча беларуса. Яго духоўнае аблічча набыло новыя якасці. Гэтыя змены ў духоўным абліччы не маглі не прывесці да сапраўднага росквіту мастацтва.

І гэтак жа, як мы ганарымся сёння росквітам нашай эканомікі, нашай сельскай гаспадаркі, нашымі пераўтворанымі старымі гарадамі і нованароджанымі маладымі гарадамі, нашымі пераўтворанымі вёскамі, — мы радуемся ўсё ўзрастаючай увазе не толькі ў нашай краіне да здабыткаў нашай беларускай сацыялістычнай культуры.

Наша сацыялістычнае па змесце і рэалістычнае па форме беларускае савецкае мастацтва актыўна ўзаемадзейнічае з мастацтвамі братніх народаў краіны. Яно нясе ў народ у лепшых сваіх творах святло ідэй Вялікага Кастрычніка. У той ідэалагічнай барацьбе, у якой мы актыўна наступаем на антыгуманістычныя пазіцыі старога, аджываючага свету капіталізму, імперыялізму, — беларускаму савецкаму мастацтву належыць пачэснае месца. Хіба ж не радасна гэта ўсведамляць?!

Я спашлюся на адно толькі выяўленчае мастацтва. У апошнія гады мы не аднойчы паказвалі лепшыя творы нашага выяўленчага мастацтва за межамі рэспублікі, за межамі краіны. І ўсюды яны сустракалі заслужанае прызнанне грамадскасці. Бо яны, гэтыя лепшыя творы нашых мастакоў, нясуць людзям не толькі прыгажосць формы, але і прыгажосць, высакароднасць зместу. Вырабы нашых народных умельцаў, вырабы славутых беларускіх майстроў шкла, жывапісныя творы і эстампы, работы кніжных графікаў прынеслі нашаму мастацтву заслужаную славу. Мы з гонарам чуем, як усё часцей гавораць, што ўдзельная вага беларускага выяўленчага мастацтва ў сучасным мастацкім развіцці няспынна вырастае.

Не, мы не заплюшчваем вочы на недахопы, якія ёсць у нашым выяўленчым мастацтве. Мы іх бачым. Мы прымаем актыўныя захады, каб недахопаў было як найменей. Расце патрабавальнасць нашага гледача да твораў мастацтва. Расце патрабавальнасць да сябе нашых мастакоў. А самае істотнае, пра што трэба сёння сказаць, заключаецца ў наступным: лепшая зарука далейшага паспяховага развіцця нашага выяўленчага мастацтва ў тым, што мы яго недахопы своечасова заўважаем, імкнемся аператыўна іх пераадольваць, зыходзячы з патрабаванняў марксісцка-ленінскай эстэтыкі, эстэтыкі сацыялістычнага рэалізму. Мы ў чысціні захоўваем наш творчы метад, які найлепш адпавядае інтарэсам нашых гледачоў — роднага савецкага народа, якому мы служым сваім натхненнем, сваімі творчымі пошукамі.

Мы пра гэта думаем заўсёды. У нашага мастацтва, як паказалі вялікія рэспубліканскія выстаўкі апошніх гадоў, — нямала здабыткаў. Але гэтыя выстаўкі паказалі адначасова, што нам яшчэ многае трэба зрабіць.

Перад намі па-ранейшаму, як адна з важнейшых, стаіць задача развіцця нацыянальнай мастацкай школы, якая найбольш поўна адпавядала б мэтам засваення ўсяго каштоўнага ў культурнай традыцыі нашага народа і ва ўсёй савецкай мастацкай культуры. Гэта задача стварэння новых высокаідэйных, высокамастацкіх твораў, вартых гістарычных здзяйсненняў, якімі слаўны наш савецкі народ.

Дыханне светлых ідэй рэвалюцыйнага, сацыялістычнага гуманізму, мэтанакіраванасць эстэтычнага жыццесцвярджэння — яны найлепш праяўляюцца ў творчасці, калі мастак ставіць перад сабой высакародныя задачы быць сапраўды мысліцелем, калі ён не звужае сваю творчасць рамкамі прыватных мастацкіх задач. Карацей кажучы, калі мастак імкнецца ў свае творы перанесці дыханне кіпучага нашага сучаснага жыцця.

Мы імкнемся да мастацтва вялікай сацыяльнай актыўнасці, здольнага спрыяць прагрэсу нашага грамадства і прагрэсу ўсяго чалавецтва. Мы імкнемся да мастацтва вялікага эмацыянальнага і інтэлектуальнага напалу.

Пра гэта думаем, гэтым заклапочаны мы ў дні, калі ўся краіна ідзе насустрач XXIV з'езду Камуністычнай партыі, калі ўся краіна на гэтым шляху святкуе надыход пяцьдзесят трэцяга Кастрычніка.

І мы, савецкія мастакі, ганарымся, што наша праца ўліваецца ў працу нашай рэспублікі, усёй нашай краіны. Мы, святлом Кастрычніка азораныя.

## «СЯРЭБРАНАЯ МІНЕРВА» — БЕЛАРУСКАМУ ФІЛЬМУ

**НА XXII Міжнародным фестывалі дзіцячых фільмаў у Венецыі прыз «Сярэбраная Мінерва» атрымала карціна студыі «Беларусьфільм» «Іван Макаравіч» (рэжысёр Ігар Дабралюбаў).**

**Савецкія кінематаграфісты не раз з'яўляліся лаўрэатамі Венецыянскага фестывалю. Толькі за апошнія гады яго прызы атрымалі «Іванава дзяцінства», «Дзікая сабака Дзінга», «Гамлет», «Жыве такі хлопец», «Вернасць», «Марозка» і іншыя.**

**«Іван Макаравіч» у свой час прыцягнуў увагу нашай грамадскасці і выклікаў ажыўленую дыскусію на старонках рэспубліканскага друку. Ён быў адзначаны першым прызам Усесаюзнага кінафестывалю ў Мінску як лепшы фільм для дзяцей і юнацтва, а таксама прэміяй Ленінскага камсамола Беларусі. Зараз «Іван Макаравіч» з поспехам ідзе на экранах краіны.**

**Высокая ацэнка аўтарытэтных камісій рэспубліканскага, усесаюзнага і міжнароднага конкурсаў сведчыць як аб вялікіх ідэйна-мастацкіх вартасцях фільма, так і аб прызнанні дасягненняў усяго беларускага кінамастацтва.**

**Рэдакцыя «Літаратуры і мастацтва» віншуе лаўрэата Міжнароднага кінафестывалю Ігара Дабралюбава і жадае яму новых творчых поспехаў.**

насустрач XXIV з'езду КПСС

# МОЙ ЗЯМЛЯК «ГОМСЕЛЬМАШ»

Анатоль ГРАЧАНІКАЎ

Фота М. АМЕЛЬЧАНКІ



Адсюль, з пагрузачнай пляцоўкі, тысячамі дарог разыходзяцца гомельскія камбайны...



Дваццаць гадоў стаіць за кавальскім молатам Васіль Мікалаевіч Хурсан.



На сцэне Палаца культуры завода — гомсельмашаўскія дзяўчаты.

НА «ГОМСЕЛЬМАШЫ» я не быў гады тры. І калі, прыехаўшы на завод, рушыў да парткома, дык разгублена спыніўся перад даўно знаёмымі дзвярыма: побач з імі вісела новая шыльда—шыльда філіяла Беларускага політэхнічнага інстытута. Інстытут на заводзе! Памятаю, як марылі пра гэта маладыя, ды і не толькі маладыя рабочыя!

Маё знаёмства з «Гомсельмашам»—даўняе. Пасля сканчэння інстытута я працаваў інжынерам побач, на рамонтна-механічным, і мне часта даводзілася бываць тут у сваіх сяброў-канструктараў, у іхняй багатай тэхнічнай бібліятэцы, у цудоўным Палацы культуры. Употайкі я нават зайздросціў сваім аднакашнікам па інстытуце: ім адразу пашчасціла працаваць на буйнейшым заводзе Беларусі, дзе і тэхнічная база вельмі высокая, і справу яны рабілі, як здавалася, больш адказную—выпускалі камбайны, славутыя на ўвесь свет.

Пасля я працаваў у камсамоле і яшчэ больш здружыўся з заводам. Камсамольская арганізацыя «Гомсельмаша»—буйнейшая ў Гомелі і Беларусі.

У новым прасторным будынку заводакіраўніцтва з шырокімі калідорамі, ўтульнымі файе, дзе па-сучаснаму многа пластыкі, дрэва і шкла, сутыкнуўся я са Станіславам Барэцкім. У мінулым ён важак камсамоліі завода, пасля—начальнік цэха здароўя. Так, так,—цэха здароўя, які ўключае ў сябе турысцкія базы, заводскі прафілакторый у маляўнічых Чонках, піянерскі лагер, водна-маторную станцыю на Сожы.

Цяпер Станіслаў Барэцкі—намеснік старшыні заводскага камітэта прафсаюза, па сутнасці, займаецца тымі справамі, што і раней: клапоціцца, каб працаўнікі завода мелі ўсё неабходнае для добрага адпачынку.

Шкада, што не давялося мне сустрэцца з дырэктарам завода Іванам Пракопавічам Кацянком—чалавекам, з імем якога звязаны лепшыя старонкі гісторыі «Гомсельмаша».

У наш час, калі ідзе інтэнсіўнае пераўзбраенне вытворчасці, шырока вядуцца размовы, нават дыскусіі на тэму: які́м павінен быць сучасны кіраўнік. Улічваецца ўсё: і шырыня дыяпазону ведаў яго, і творчая інтуіцыя, уменне выбраць з мноства варыянтаў-рашэнняў—адзінае, самае аптымальнае, і яго смеласць у вырашэнні тэхнічных праблем. Усе гэтыя якасці ў Івана Пракопавіча ёсць. Але ёсць у ім яшчэ адна найкаштоўнейшая рыса, якая «прыўзнімае» яго як кіраўніка, не аддаляючы ад калектыву—гэта глыбокая чалавечнасць, якая спалучаецца з высокай патрабавальнасцю да людзей і да сябе асабіста...

230 тысяч камбайнаў павінен выпусціць завод за наступную пяцігодку. Уявіце сабе, якую велізарнейшую работу трэба правесці цяпер калектыву для нарошчвання вытворчых магутнасцей, узмацнення механізацыі і аўтаматызацыі.

Шчыра кажучы, не ўсе кіраўнікі цэхаў, аддзелаў, служб здатны вытрымаць такі напор задач і праблем, такое напружанне ў рабоце. Вось чаму дырэкцыя завода дбае аб кіруючых кадрах, грунтоўна аналізуе іх дзейнасць, займаецца тэхнічным і ідэалагічным выхаваннем усіх спецыялістаў.

І таму няма нічога дзіўнага ў тым, што партыйную арганізацыю завода (яна налічвае каля паўтары тысячы камуністаў) узначальвае 32-гадовы Мікалай Афанасьеў, дарэчы, сам здольны, вопытны інжынер, аўтар каштоўнага запатэнтаванага вынаходніцтва, якое прынесла немалую карысць заводу. А, скажам, на чале цэха галоўнага канвеера,—вядучага цэха, дзе скрыжоўваюцца ўсе «сілавыя» лініі завода, стаіць 30-гадовы Станіслаў Пракапенка.

Каб дамагчыся правільнага вытворчага рытму ўсяго прадпрыемства, трэба мець высокую культуру вытворчасці, немагчымую без укаранення ў вытворчасць тэхнічнай эстэтыкі і ўрэшце без высокай культуры адносін паміж людзьмі.

Прыгадваю, як пры мне ў парткоме завода Леанід Георгіевіч Дзень-Добры (ён зараз намеснік дырэктара па кадрах) ушчуваў начальніка аднаго з цэхаў не толькі за недахопы ў рабоце, а і за тое, што ён няголены, у запэцканым, брудным адзенні. «Двое сутак дома не сплю,—апраўдваўся той,—сям'і не бачу, самі ведаеце—прарыў!»—«А ці патрэбен ты ў такім выглядзе дома?—насядаў Леанід Георгіевіч. — Заўтра каб зайшоў да мяне пры гальштуку, у адпрасаваных штанах і адглянцаваных ботах! Які прыклад рабочым падаеш». І пасля ўжо, звяртаючыся да мяне, дадаў: «Безумоўна, не белай кашуляй вызначаецца аўтарытэт кіраўніка, але калі чалавек знешне неахайны, то і ў рабоце ён неахайны...»

Складаны гэта арганізм — калектыў. Праходзіць час, ён прасвечваецца на якасць, ярчэй выкрышталізоўваюцца ў ім людзі, і тады бачна, для каго завод—роднае, сваё, для каго—часовы прытулак. Гонар калектыву—ветэраны вытворчасці. Памятаю, як віншавалі пяць гадоў назад сельмашаўцы каваля Васіля Мікалаевіча Хурсана з прысваеннем яму звання Героя Сацыялістычнай Працы. А ён стаяў разгублены, сарамяжлівы, не ведаючы, куды падзець рукі, рукі працоўнага чалавека. Зараз ён яшчэ і дэпутат Вярхоўнага Савета СССР. Але і сёння ён у кавальскім цэху. Вось ён уважліва разглядае, «чытае» чарцёж новага задання, і водсветы зыркага полымя асвятляюць яго аблічча. І вось ужо распаленая пакоўка пад прэсам, і той пайшоў, заляскатаў, задыхаў, падпарадкоўваючыся самым тонкім, няўлоўным збоку рухам рук каваля-чараўніка.

Нядаўна «Гомсельмаш» адсвяткаваў сваё саракагоддзе. Напярэдадні гэтага вялікага свята з канвеера сыйшоў 100-тысячны камбайн. Ад звычайнай сіласарэзкі да самага прадукцыйнага ў свеце камбайна—такі шлях заводе за 40 гадоў.



Тут праектуюцца новыя машыны. Адзін з творцаў іх — інжынер-канструктар Аляксандр Шчамінок.



За пультам дыстанцыйнага кіравання галоўнага канвеера—апаратары Еўдакія Казак і Ганна Кузняцова.



Расказвае Ірына Фларыянаўна Ждановіч..

# ДОБРЫ ДЗЕНЬ, БАРЫС ВІКТАРАВІЧ!..

## СВЯТА ВУЛІЦЫ ПЛАТОНАВА Ў МІНСКУ

ЯНЫ глядзяць на стэнды з фатаграфіямі сцэнічных герояў, створаных талентам і майстэрствам Барыса Віктаравіча Платонава. Чалавечыя вочы! Як многа яны могуць сказаць. Поўныя пачуцця ўласнай годнасці і затоенай нянавісці вочы Канстанціна Заслонава, дурнавата-задаволеныя— Адольфа Быкоўскага, па-сялянску хітрыя — Лявона Чмыха, пакутлівы і горды позірк Эзопа... А з партрэта Платонава ў жыцці — ясныя ўдумлівыя вочы мастака, якому дадзена было бачыць глыбей, чым многім з тых, хто сёння завітаў сюды.

Людзі ўспамінаюць аб тым, якім яны бачылі жывога Барыса Віктаравіча на сцэне. Гэта — жыхары вуліцы імя Платонава. Яны сабраліся ў Дом культуры першага будаўнічага трэста, каб аддаць даніну пашаны незабыўнаму артысту, які пакінуў такі яркі, такі светлы след у беларускім мастацтве.

А ў невялікім пакойчыку за кулісамі рыхтуюцца да выступлення артысты тэатра імя Янкі Купалы. Яны пакажуць сцэны з «Канстанціна Заслонава» — спектакля, які сваім поспехам быў у многім абавязаны Барысу Платонаву, над узнаўленнем якога ён працаваў у апошнія гады жыцця, рупліва рыхтуючы сабе замену.

Сярод тых, хто запоўніў залу, — і маладзенькія дзяўчаты з інтэрната будаўнічага трэста, якія нядаўна прыехалі ў Мінск з вёскі, і старажылы сталіцы, што добра памятаюць, якім святам была для нас кожная новая работа Платонава. Такія, напрыклад, як пенсіянерка Алена Антонаўна Навакоўская, раней мантажніца аднаго з мінскіх заводаў.

— Я вельмі любіла хадзіць на спектаклі, у якіх іграў Платонаў, — сказала мне Алена Антонаўна. — Асабліва запомніўся ён мне ў ролях Заслонава і Рамеа. Мне здаецца, што так шчыра і высакародна мог іграць толькі вельмі чысты, шчыры чалавек.

— Мяне здзіўляла яго незвычайнае ўменне знешняга і ўнутранага пераўвасаблення, — гаворыць інжынер «Энергасецьпраекта» Іраіда Чарванец. — Пан Быкоўскі і Эзоп! Цяжка адразу паверыць, што іх паказвае адзін і той жа чалавек.

А побач дзяўчынка год дзевяці-дзесяці, паказваючы сяброўкам на фатаграфіі, дакладна называе ролі, у якіх зняты артыст.

— Адкуль ты гэта ведаеш? — здзівілася я.

— Яна бачыла Платонава, — з прытоенай зайздрасцю паспяшаліся растлумачыць мне яе сяброўкі.

— Мой тата — начальнік радыё ў тэатры, — сказала дзяўчынка, — і ён часта браў мяне з сабой на спектаклі. Я ўсё добра памятаю.

Не ведаю, ці сапраўды многае памятае Ірачка Цецерава, але, мабыць, засталося ў яе душы нешта незабыўнае, калі яна так цікавіцца творчасцю артыста і ўжо ведае аб ім больш, чым магла бачыць сама.

Пётр Гіляравіч Клачко, галоўны механік «Белэнергабуда», прыехаў у Мінск не так даўно.

— Мы вельмі ўдзячны калегам Пла-

Сцяпан АЛЕКСАНДРОВІЧ

# ПЕРШАЯ ВЯСНА

## УРЫВАК З КНІГІ ПРА ЖЫЦЦЕ ЯКУБА КОЛАСА

**Гэта ўрывак з аповесці «Ад гоману бароў» — з новай кнігі пра жыццёвую і творчую дарогу Якуба Коласа. Першыя гады настаўнічання на Палессі, турэмныя дні, праца ў Пінску, армейская служба і франтавыя будні на Румынскім фронце — вось пуцявіны пісьменніка, пакладзеныя ў аснову кнігі. Гэта ж час, калі нараджалася паэтычная песня, ішло яе гартаванне, калі выспявала задума «Новай зямлі» — гэтай непаўторнай эпапеі беларускага народнага жыцця, калі фармаваўся празаік Тарас Гушча.**

**АЎТАР.**

Ішла вясна. Першая вясна, якую Кастусь Міцкевіч сустракаў за турэмнымі кратамі.

Недзе за сценамі астрога ласкава прыгравала вясновае сонца, весела булькалі ручаіны, радасна выспеўвалі свае трэлі жаўранкі, а тут, у камеры, вясна яшчэ зусім не адчувалася, яе повідам не было відаць. Мужчыны з ранку да вечара таўкліся ля акна, але што ты там выглядзіш, калі вочы мазоліць аблезлы мур, а пад ім учарнелы снег, які і не думаў раставаць.

Тры дні таму назад на вячэрнюю паверку ў дванаццатую камеру зайшоў сам начальнік астрога Славінскі са старшым наглядчыкам Дожджыкам. Пікулік таксама быў з імі, ён застаўся ў дзвярах і высока падняў ліхтар: у камеры было ўжо цемнавата. Усе арыштанты, што былі тут, шуснулі на нары: было дамоўлена сустрэць лежачы турэмную адміністрацыю.

Начальнік астрога ступіў некалькі крокаў і пачаў, не спяшаючыся, здымаць пальчатку з левай рукі, а потым сярдзіта сіплым голасам крыкнуў:

— Устаць!

Ніхто на нарах не паварушыўся. У гэты час у камеру ўвайшоў Кролік і спакваля на вачах у начальства выцягнуўся на сенніку.

— Уста-а-аць!—зароў Дожджык.

Мірман, які ляжаў побач з Кастусём, са страху аж падскочыў, але сусед паклаў яму руку на грудзі—ляжы! Пасля падняўся Кролік і, не злазячы з сенніка, абхапіўшы рукамі калені, спакойна пачаў:

— Мы пратэстуем супроць таго, што нам перасталі даваць газу і зменшылі норму дроў. Мы, хоць і арыштанты, але людзі... І патрабуем да сябе людскіх адносін!

— Пасвяці!—крыкнуў Славінскі Пікуліку.— Паглядзімо, што там за мудрэц аб'явіўся.

Кролік выйшаў наперад:

— Стараста камеры!

— Тыдзень карцару,—павярнуўся да дзвярэй начальнік турмы.

— Пратэстуем!—загудзела дванаццатая камера.

— ...Столькі ж дзён пад замок астатніх,—кінуў Славінскі ўжо за парогам.

Першы дзень Дожджык адчыняў «вочка» ў дзвярах і пацвельваўся:

— Якое сёння сонца слаўнае! Любата!

Паспрабаваў ён дражніцца і назаўтра, але Дурмашкін не вытрымаў здзеку, хапіў дзяркач, якім падмяталі камеру, і шпурнуў у «вочка». Дожджыка як вадой змыла, і больш ён не паказваўся.

Кролік сядзеў у смярдзючым каменным мяшку, а жыхары дванаццатай сланяліся па камеры. Сонца і вясну бачыў толькі той, хто зранку выносіў парашу...

Кастусь зранку да вечара вылежваўся на нарах. Кожную вясну ён перажываў чамусьці вельмі хваравіта. Нейкія няясныя трывогі і парыванні апаноўвалі яго сэрца, думкі мкнулі далёка-далёка ад будзённых клопатаў і лёталі ў нябёсах. Рэзка мяняўся настрой. То з'яўлялася адчуванне бадзёрасці, радасці і ўпэўненасці ў сваіх творчых сілах, і тады нібыта вырасталі крылы. Пасля раптам без прычыны, здаецца, агортала цяжкая беспрасветная туга, у галаву лезла розная дрэнь. Не пісалася, не чыталася, ноччу не спалася, сніліся страшныя сны. Нідзе не знаходзіў ён тады месца і... ішоў у лес. Доўга хадзіў там у бяздум'і, сядзеў дзе ў зацішку на пенчуку ці на зямлі, слухаў птушыныя галасы і ціхую змалку знаёмую і любімую лясную песню. Так прыходзіў у лес дзень у дзень, блукаў у адзіноце,—і паволі вяртаўся душэўны спакой.

Зараз было горш. Смутак падкрадаўся даўно, а потым туга спаланіла ўсю істоту, усе помыслы. Спачатку Кастусь не паддаваўся, расказваў вясёлыя здарэнні і анекдоты, разам з усёй дванаццатай чвэрыў што-небудзь смешнае. Але неўзабаве надышоў такі дзень, што не толькі расказваць, але слухаць нікога не хацелася, ляжаць—не ляжалася, думаць—не думалася, прапаў сон,—усё вярэдзіла душу, хоць рукі на сябе налажы. Калі ж ён не ўстаў аднойчы палуднаваць, Шпакоўскі, які быў за кухара, сказаў:

— Расклеіўся наш Стары.

— Ты што, браток, захварэў?—устрывожыўся Дурмашкін.

Жыхары дванаццатай камеры абступілі Кастуся, кожны даваў параду, прапаноўваў лекі і зёлкі. Падышоў нават нясмелы селянін Цярэшка з-пад Маладзечна, які яшчэ не асвойтаўся на новым месцы: яго нядаўна перавялі з дзявятай камеры. Ён дастаў са свае торбачкі пляскатую бутэлечку:

— Во, хлопча, загавораная вада... Памагае ад захалоду падвяроду і кепскіх вачэй...

Усе дружна накінуліся на дзядзьку Цярэшку, паднялі на смех яго ваду і яго веру ў бабскія забабоны. Гэтае здарэнне адразу скіравала гаворку пра розныя прымхі, замовы і чарадзействы. Хто расказваў, як памагло нейкаму; хто даводзіў, што гэта ўсё выдумкі і шарлатанства.

Кастусь слухаў гэты гармідар, і яму раптам захацелася адзіноты... Вось каб цяпер у Альбуць, выпіць конаўку бярозавіку і на цэлы дзень сыйсці ў лес. Усю хворасць, як рукой зняло б. Але... На сэрцы ў яго стала горка, крыўдна і балюча, аж набеглі слёзы.

Ноч прайшла неспакойна. Бачыў у сне Алесю Рамановіч. Стаіць яна ў царкве ўся ў белым і пытаецца ў Кастуся: «Няўжо ты не ведаеш, дзе забіты Вальдзерозе?» Той нібыта адказаў: «Ведаю. Каля Блоні, што пад Ігуменам».

Дзіўна было тое, што сон добра застаўся ў памяці і на раніцу, нават прозвішча нейкага Вальдзерозе. «Хаця б Алеся не захварэла», — падумаў ён, запытаўся ў Лейвіка:

— Хто такі Вальдзерозе?

— А ліха яго ведае. Не чуў такога...

Уставаць не хацелася, і ўслужлівы Цярэшка падаў Кастусю кубак чаю. Дзень абяцаў быць такім жа сумным, доўгім і нецікавым, як учарашні.

Але выручыў наглядчык Пікулік. Адразу пасля снедання ён адчыніў камеру і весела аб'явіў:

— Хто пойдзе снег раскідаць?

Ахвотнікаў было многа: кожнаму хацелася вырвацца на прастор, каб палюбавацца сонцам і вясною. Але Пікулік падышоў да нараў, на якіх ляжаў Кастусь, і запытаў:

— А ты, Кінсцінцін, чаму не ўстаеш? Падымайся! Каяцца не будзеш...

Пасля змрочнай камеры на двары быў рай. На высокім сінім небе ні хмурынкі, сонца прыгравала так, што на турэмным двары ўжо зранку было не прайсці: у самай сярэдзіне яго красавалася вялікая лужа вады. Арыштанты дружна завіхаліся з лапатамі, прабілі дарогу вадзе, а потым узяліся за гурбу снегу. Кастусь спачатку раскідаў снег каля ўваходнай брамы, а потым Пікулік забраў у яго лапату і пасадзіў у зацішку.

У абед, седзячы побач за сталом, Шпакоўскі запытаў у Кастуся:

— Ну, як, Стары, ажыў?

— Дзіва што. Паўдня грэў зубы на сонцы.

— Ну, то атрымлівай яшчэ адну порцыю поліўкі, — сказаў кухар.

Назаўтра зноў Кастусь грэўся на сонцы: лапата ў іх была на двух з Дурмашкіным.

Яшчэ праз пару дзён вярнуўся з карцара Кролік. Зямлісты твар цяпер стаў белы, як палатно, і нібы прасвечваўся. Дванаццатая наладзіла свайму старасту ўрачыстую сустрэчу. Цераз Пікуліка дасталі хлопцы нават «божых» кропель і бохан свежай сітніцы. Было той вечар гамонкі, смеху, жартаў і песень!

Здавалася, турэмная жытка ўвайшла ў сваю прызвычаеную каляіну, але раптам новая бяда навалілася на дванаццатую камеру. На трэці ці чацвёрты дзень, як прыйшоў стараста, захварэў Іван Сарока. Гарэў агнём, ноччу трызніў. Раніцою забралі яго ў турэмны лазарэт, дзе прызналі, што ў Івана тыфус.

Прыйшоў фельчар; не пераступаючы парог, пакруціў носам — і наклаў каранцін. Цяпер ізноў нікога не выпускалі з камеры. Хлопцы нібыта духам не падалі, спявалі песні, жартавалі, але гэта



Мал. В. ТАРАСАВА

*ШТРЫХІ ДА ПАРТРЭТА*

Варлен БЕЧЫК

# НА ПАЎМІЛЬЯРДНЫМ КІЛАМЕТРЫ

НЕ ТОЛЬКІ ў паэтаў—у чытачоў таксама бываюць часы асаблівай плённасці, душэўнага ўздыму і вялікага натхнення. Гэта — калі жывецца шырака, светла, калі глыбінна, здаецца, разумееш існы свет, бачыш духоўную і жыццёвую далячынь. Жыццё і паэзія сыходзяцца тады ў тваёй душы ва ўзаемнай непарыўнасці, і ты расцеш, мацнееш духам, і ўсім сэрцам адчуваеш небудзённасць будзённасці—паўнату і змястоўнасць жыцця.

Рознымі шляхамі і з розных прычын прыходзіць да нас гэтае шчаслівае адчуванне. І каго з нас не ўзносіла вольна і высока на сваёй хвалі сапраўдная паэзія, хто не зведаў гэтых своеасаблівых, шчаслівых і напоўненых імгненняў чытацкай творчасці, калі ты быццам сам творца, у поўным кантакце з паэтам, яго пачуццём і думкай, калі ты нібы і сам становішся ўпоравень з ім, адкрываеш хараство і сягаеш да духоўных вышынь, калі здаецца, што радасць паэта — твая радасць, усе яго пачуцці і думкі — твае. «Не я пишу стихи. Они, как повесть, пишут меня, и жизни ход сопровождает их...» — гэтыя словы, сказаныя выдатным паэтам, успрымаеш і так: паэзія, верная і вечная спадарожніца чалавечых душ,—наша стваральніца, адзін з важнейшых стымулаў у жыццёвай хадзе...

Як і для многіх чытачоў, для мяне, калі я думаю пра сапраўдную паэзію і згадваю лепшае, што ёю мне дадзена—сярод першых і самых душэўных спадарожніц—згадваецца, і не проста згадваецца, а адразу пачынае разгортвацца і інтэнсіўна жыць у душы паэзія Аркадзя Куляшова.

Сапраўды, колькі разоў прыходзіла яна да нас і кожны раз па-новаму паланіла сваёй праўдай і прыгажосцю, дарыла глыбокія перажыванні. Колькі перажыта разам з паэтам, колькі ўзята ад яго твораў радасці і гора, колькі знойдзена ў ёй **свайго**, колькі аддадзена душэўнай энергіі пры чытанні, перачытванні, пры першых і наступных сустрэчах з яго цудоўнымі творамі, колькі ўласных перажыванняў знаходзіш у іх...

Пра гэта не скажаш адразу і коратка. Прызнаюся, усё больш спее ў душы намер—напісаць, калі хопіць сіл і смеласці, **сваю** кнігу пра Куляшова: не толькі, каб перачытаць ад пачатку яго паэзію ўслед за іншымі даследчыкамі, але і расказаць пра свае чытацкія ўзаемаадносіны з ёй, падсумаваць уражанні і назіранні ад сваіх даўніх зносін з многімі куляшоўскімі творамі; звярнуўшыся да свайго жыццёвага і чытацкага вопыту, паспрабаваць паказаць, якімі шляхамі—у асобным канкрэтным чалавечым лёсе—знаходзіла і знаходзіць паэтава слова чытацкі водгалас, як жыве яно і разгортваецца ў свядомасці аднаго з чытачоў-сучаснікаў.

І паколькі творчасць народнага паэта Беларусі, аднаго з выдатнейшых прадстаўнікоў савецкай паэзіі, дае вялікую прастору для многіх думак і разваг, у гэтай кнізе я б хацеў і асэнсаваць глыбокую змястоўнасць і мастацкую непаўторнасць куляшоўскай паэзіі, і пагаварыць пра яе наватарскі характар і сувязі з традыцыямі беларускай і рускай класікі, і паразважаць пра месца яе ў нашай паэзіі, пра яе трывалую і рознабаковую сувязь з грамадскім жыццём і літаратурным працэсам, і многае іншае, што, зрэшты, яшчэ раз засведчыла б яе духоўнае багацце, жыццёвую і мастацкую невычэрпнасць...

Але пакуль усё гэта ўзважваецца і вывяраецца, да мяне прыходзіць куляшоўская паэзія зноў і зноў, дорыць новыя перажыванні і хвалюе з новай сілай.

Вось на стале некалькі асобных томікаў і часопісных кніжак—плён паэтавых апошніх гадоў. Паэмы «Цунамі» і «Дарога да акіяна», пераклады Лермантава, «Спеў аб Гаявасе» Лангфела і «Энеіды» Катлярэўскага. А побач з імі ўсё яшчэ зусім нядаўнія, надзвычай сённяшнія—«Новая кніга» і «Маналог»...

У перадсвяточным раскашаванні восені вечнасць вядзе з намі ціхую вольную размову—расхінаюцца туманы, свеціцца сінню і сонцам далячынь, ціха ападае долу трапяткі жаўталіст... Вольна дыхаецца і далёка глядзіцца. Разам ідуць урачыстая святочнасць і жыццёвая радасць—тая радасць, што не мела б сапраўднай паўнаты і сілы, калі б яе гармонія і душэўны спакой не апладняліся заўсёды неспакоем, тугою, маркотай і вандроўным болем хваляванняў, удач і няўдач...

Гэта—наша сёлетняя восень. А ў паэта—свая восень, свая душэўная віднага. Пераведзеная ў чалавечы план, асенняя пара ўспрымаецца ім як перадапошняя ступень у цыкле жыцця і лёсу: «Замаўкаюць птушыныя звонкія спевы, калі восень прыходзіць



Аркадзь Куляшоў.

у край наш лясны, і, як свечкі, вакол ярка ўспыхваюць дрэвы на праводзінах лета, на памінках зімы. Там, дзе восень ідзе, лес шумлівы радзее, вецер гоніць хмарыны з-за цёмных ялін. Грозны чуючы сівер, лісты, як надзеі, аблятаюць на дол з пачарнелых галін». Зведзеныя разам, прыродны кругазварот і жыццёвае ўзыходжанне ўступаюць у актыўныя зносіны: прага жыццёвасці, напружанне волі, актыўнасць душы супрацьстаяць асенняму згасанню, метафары душэўных намаганняў адольваюць метафары восені:

Я, ўлюбёны ў жыццё, не скаруся пагрозе
На праводзінах тых, на памінках старых,
Выйду з лесу і стану ў зімы на парозе
Дрэвам я, што лістоў не губляе сваіх.

Я трымаў іх з вясны, да вясны датрымаю,
Не развею па свеце, не кіну ў бяду,
Дружным пошумам іх новы май
прывітаю...

І тут жа, у кульмінацыйны момант душэўнага ўзыходжання—мужнае прызнанне жыццёвай непазбежнасці: «...І з адзінаю просьбай на дол упаду: —Адгукніся, вясна, мне зязюляй з-за рэчкі, дай яшчэ раз прыпасці да любай зямлі і каштанаў сваіх незгасальныя свечкі над маёй адшумеўшай вясной запалі!»

Гэта—з «Новай кнігі». Але ў ёй нішто не адасоблена: адзін настрой сыходзіцца з другім, кожная думка апладняецца новымі, свет шырэе, асобныя моманты жыцця душы лучацца ў агульнай плыні быцця, асабістае становіцца грамадскім (як і грамадскае—асабістым), выяўляецца прыналежнасць чалавека да часу, да сучаснікаў, да людскіх набыткаў і страт, да работы, да будучыні, да новых спраў і задач чалавецтва. Сыходзяцца далягляды прыроды і гісторыі:

Зайшоўшы ў векавыя нетры,
Стаю, зачараваны ім,
На паўмільярдным кіламетры
Паміж наступным і былым.

Ад старонкі да старонкі ўзрастае маштаб бачання і пачуцця: «Начы і дня адбіўшы чаргаванне, на месцы не стаяць мацерыкі—па іх жывым і сонечным экране бягуць дарог і рэчак ручнікі. Дыван вясны перацвітае ў лета, завея лісцяў—у сняжынак пух; я не хачу, каб некалі ўсё гэта, хаця б на момант, свой спыніла рух. Хай сэрца стане, сонца ў хмарах згіне, а ты, зямля, няспынным крокам кроч...»

Чалавечы лёс уваходзіць у гісторыю: «Як быццам я ўладар дарог і рэк, рэгуліроўшчык каруселі гэтай, як быццам не праносіў над планетай мяне лістком, сняжынкаю, ракетай праз атмасферны ціск суровы век. Быў пылам я ў імклівым карагодзе гадоў, трухой і зернем на таку, хацеў бы век, які ўжо на зыходзе, забраць мяне з сабой, а я руку гарачую працягваю прыродзе — з дваццатага ў трыццатае стагоддзе»...

«Новая кніга» ўяўляецца мне вяршыняй паэта. Як многа—шырака, светла, поўным сэрцам—сказана ў ёй! І якая ўмяшчальнасць пачуцця—у глыбінях філасофскага абагульнення выразна і моцна гучаць патэтыка і пяшчота, інтымнасць і грамадзянская пафаснасць, элегічны ўспамін і радаснае парыванне да новых вышынь.

Колькі сказана тут аб жыцці і творчасці, аб каханні і здрадзе, аб змесце і істотнасці чалавечага вопыту, што месціць у сабе вопыт дзяцінства, юнацтва і сталасці, колькі розных—згодных і супярэчлівых душэўных рухаў—сыходзіцца ў адно агульнае пачуццё. «Новая кніга» сцвярджае адзінства ўсіх бакоў жыцця, яго асабістых і грамадскіх ліній, звязанасць усіх жыццёвых явішч і з'яў, усіх пабуджэнняў у свеце мэтаімкнёнай чалавечай асобы, засяроджанай на роздуме пра лёс зямлі і чалавецтва, вялікай у разуменні ўласнай адказнасці за ўсе шматвекавыя набыткі чалавечай культуры:

Мне кожны год, нібы жыццём другім,
Жыць у дваццаты век наш давялося...
Я—акіяну жытняга калоссе:
Мільёны лёсаў змешчаны ў маім,
Яшчэ да дна не вычарпаным, лёсе...
Ператварацца буду зноў і зноў
З ідэі ў плоць, з жыцця ў жыццё
другое...

Жыву, і пачуццё ў мяне такое,
Як быццам мне не пяцьдзесят гадоў,
А пяць стагоддзяў—самае малое.

«У часу няма часу»—давялося пачуць мне ў адной гаворцы пра ісціну, праўду і вечнасць. Але сустрэча з любімым паэтам гаворыць: кожны момант нашага жыцця, калі яно не пустое, бяздумнае і марнае існаванне, ёсць імгненне вечнасці, а кожнае імгненне вечнасці мае свае душэўныя каардынаты—і сотыя вёрсты, і паўмільярдныя, мільярдныя кіламетры ў нашай свядомасці—у нашых адліках жыццёвых дарог, у радасным і балючым пазнанні быцця, нястомнай працы, спатканнях з векам і каханай, руху наперад і ўдалячынь.

«Новая кніга»—асаблівая кніга. Гэта кніга жыццёвых падрахункаў, сумавання вопыту. Кожная думка ў ёй выведзена з многіх роздумаў і перажыванняў і суаднесена з усімі этапамі жыццёвага вопыту ад дзяцінства да сталасці. Заўсёды звязаная з акрэсленай і пэўнай лірычнай асобай, яна пазбаўлена аднačасова вузкай асабістасці. Свет «Новай кнігі»—свет высокай духоўнасці, што ўзнімаецца над будзёншчынай, расхінае небасхілы для пачуцця і думкі, для вялікага гарту, мужнасці і няўхільнага руху ўперад. З вялікай сілай і выразнасцю яна сабрала і выявіла трывалыя і рознабаковыя сувязі сучасніка з часам—не прыватныя і дробныя залежнасці ад яго, а сувязі з яго галоўнымі шуканнямі і супярэчнасцямі, жывыя чалавечыя сувязі, што ніколі і ніколькі не абстрагуюцца ад надзённых чалавечых клопатаў і трывог, але і не драбнеюць у мітуслівых неістотнасцях. Аптымістычная, скіраваная ў будучыню паэзія Куляшова ўсюды верная жыццёвай дыялектыцы—у ёй адлюстраваны не толькі сталенне і рост чалавечай душы, але і непазбежнасць набліжэння яе да нябыту, не толькі ўдзел у чалавечай пераемнасці набыткаў, ідэалаў і спраў, не толькі рух да агульначалавечага шчасця, але і ўзрастанне трывогі за чалавецтва.

Адзінства маральных, жыццёвых і творчых высноў. Вышыніы лёт думкі, заўсёды гнуткай і выразнай, арганічнай па спосабе выяўлення. Асаблівая зладжанасць і адухатворанасць выслову. Трывалая выверанасць сувязей з жыццём і светам. Выдатная здольнасць «удерживать вниманье долгих дум» (Пушкін) і адчуваць жыццёвую напоўненасць асобнага імгнення... Класічная гарманізаванасць формы—у вершах ёсць і ключавыя радкі, галоўныя месцы лірычнага дзеяння, але няма духоўна, эстэтычна разрэджанай і адасобленай ад галоўнага пачуцця прасторы...

Так, не пабаімося сказаць: класічнасць. Вядома, не ў «мемарыяльным», гісторыка-літаратурным плане.—Мы добра памятаем, што побач з Куляшовым працуюць і Броўка, і Танк, і Панчанка... Маецца на ўвазе толькі паэтава класічная, паводле вызначэння Сент-Бёва, здольнасць перадаваць свае думкі і перажыванні ў форме «свабоднай і велічнай, зграбнай і асэнсаванай, здаровай і прыгожай і па сутнасці сваёй», уменне гаварыць «з усімі ў сваім уласным стылі, што аказаўся б разам з тым і ўсеагульным, у стылі, новым без неалагізмаў, новым і антычным, у стылі, што лёгка становіцца сучаснікам усіх эпох». Бо стыль Куляшова, нават пад час выяўлення самых складаных і супярэчлівых душэўных рухаў, здаецца натуральна-простым, дзякуючы дакладнасці прапорцый ва ўзаемаадносінах жыццёвых і мастацкіх элементаў—усё мэтазгодна абумоўлена як з пункту гледжання істотнасці саміх з'яў, так і іхняй мастацка-стылёвай адпаведнасці.

І яшчэ: універсальнасць творчых задач, так уласцівая класікам, ад Пушкіна да Багдановіча, калі жыццёвы і творчы пошук яднаюцца, складаюць адзінства на галоўных дарогах грамадскай гісторыі і літаратурнага працэсу, калі нават асобнае перажыванне, лакалізаванае ў межах аднаго твора, мае далёкі жыццёвы і эстэтычны гарызонт, мацуе сувязь людзей і эпох, звязвае мінулае з будучыняй...

«Новая кніга» здаецца класічнай і ў сваёй завершанасці. Уся наступная

## ЗАСЛОНА АДКРЫТА!



**Дзякуючы дапамозе нашых калег з бабруйскай газеты «Камуніст», мы маем магчымасць даць здымак са спектакля, якім учора, 5-га лістапада, адкрыў заслону новы драматычны тэатр. Грамадскасць горада і госці цёпла віталі прэм'еру—драматычную паэму «Разгром» па рамане А. Фадзеева (інсцэніроўка І. Прута і М. Захарава). Паставіў спектакль галоўны рэжысёр тэатра Віктар Каралько ў дэкарацыях, зробленых па эскізах мастака Аляксандра Салаўёва.**

**Чытачы і супрацоўнікі газеты «Літаратура і мастацтва» віншуюць калектыў маладога тэатра з адкрыццём першага сезона і жадаюць яму плёну ў творчай дзейнасці, глыбокага мастацкага даследавання жыцця і стварэння яркіх вобразаў у класічным рэпертуары і сучасных п'есах, сталых сяброўскіх кантактаў з беларускімі драматургамі, высокай грамадзянскай прынцыповасці!**

**На здымку—эпізод з «Разгрома» на бабруйскай сцэне. У ролі Левінсона—артыст Валерый Фралоў, Мечыка—Валерый Шушкевіч.**

Фота Р. ГАНІКМАНА.

творчасць паэта— «Маналог», паэмы «Цунамі» і «Дарога да акіяна»—працягваюць і развіваюць яе праблематыку, але адчуваецца, што гэта не проста працяг, але і выспяванне нейкага новага этапа.

«Цунамі», напрыклад, цесна звязана з тымі старонкамі «Новай кнігі», што выводзяць нас на гістарычныя скрыжаванні мінулага і будучыні, але ўжо ў зусім новым ракурсе—быццам для праверкі мэтазгоднасці чалавечай супольнасці на ўсім абсягу чалавечай гісторыі («ветразі дванаццатага веку сустрэчным ветрам век дваццаты б'е»). Тут свая праекцыя чалавечага лёсу на вечнасць, новая, нейкім чынам нават эксперыментальная спроба праверыць значэнне для чалавека і чалавецтва ўсіх каштоўнасцей, тут ужо ідзе вячысты «паміж жыццём і смерцю дыялог». Выбіраюцца і акрэсліваюцца новыя шляхі думкі аб сувязі часоў і пакаленняў, аб адказнасці людзей за лёс чалавецтва гаворыцца ўжо з іншага пункту гледжання: «Няма шляхоў да самазахавання, няма дарог да светазабыцця у час ліхі ўзаемапаляванне сіл супрацьлеглых: смерці і жыцця»... Магчыма, у гэтай паэме сапраўднае пачуццё выявілася і знайшло сябе не ўсюды—асобныя мясціны часам здаюцца адцягненымі, аднесенымі ад творчай асобы аўтара яго эмацыянальным уяўленнем.

Магчыма, і «Дарога да акіяна», у якой адчуваецца значнасць і маштаб яшчэ не да канца рэалізаванай задумы, не ўсюды ўзвысіцца да вышынь «Новай кнігі». Але гэтыя творы выразна паказваюць, што Куляшоў, творчасці якога ўласцівы няспынны рух, адчувае небяспеку самакананізацыі, пагрозу стаць «сумарнай асобай», зусім пазбаўленай прыватнага жыцця, і—у каторы раз!—ён ідзе на свядомы адрыў ад уласных адкрыццяў. Гэтае «бытия возвратное движенье» (Блок), што адбываецца ў «Дарозе да акіяна», памкненне да паслядоўнага жыццяпісу (біяграфічнай хронікі), мае свае важныя стымулы: патрэбу не толькі ў вяртанні да вытокаў, але і ў зверцы, суаднясенні галоўных набыткаў духоўнага вопыту з прыватнасцямі чалавечага лёсу, агульнага развіцця рэчаіснасці, прапушчанай праз свядомасць і натхненне, з жыццёвымі кірункамі аднаго чалавека. І гэта—яшчэ адзін ракурс для вызначэння месца гісторыі ў чалавечым лёсе і месца чалавека ў гісторыі.

Гэты зваротны рух назад, да вытокаў мае і яшчэ адзін сэнс: яшчэ адно, на новым узроўні, пераасэнсаванне пройдзенага, адкрыццё з вышыні новага вопыту глыбейшага зместу сваёй маладосці. Так, спыняючы імклівы ход воднай плыні, нібы прымушаюць яе ісці назад, падымаючы ўзровень рэчышча.

Ю. Тынянаў пісаў у адным артыкуле, што «рост новых з'яў адбываецца толькі ў тыя прамежкі, калі перастае дзейнічаць інерцыя...» Мабыць і ўся наша паэзія знаходзіцца зараз на адным з такіх прамежкаў, калі ад яе чакаеш якасна новага заглыблення ў час і рэчаіснасць. Куляшоў заўсёды паслядоўна і чуйна адгукаўся на глыбінныя зрухі грамадскага жыцця і павароты гісторыі. Яго творчы шлях сведчыць аб няўхільным нарастанні засяроджанасці, інтэнсіўным збіранні і назапашванні вопыту, мабілізацыі на творчасць усё большых духоўных рэсурсаў. Згадваюцца зараз яго былыя, розныя ў розны час творчыя перагрупоўкі напярэдадні новага кроку наперад: неідылічны перадваенны зацішак перад узрыўной паэзіяй вайны, негрымотнае пасляваеннае «паспакаенне» і шуканні на вялікім пушчанскім масіве паэтычнай хронікі заходнебеларускага жыцця...

Думаецца, што і зараз у паэта адбываецца «пераадоленне інерцыі», новая творчая перагрупоўка. Мабыць, не выпадкова ў яго перакладах натхненне шукае сумеснасці і з выключна індывідуалізаванай лірычнай класікай Лермантава, і з роўнымі плынямі паэтычнага эпасу, з велізарнымі ўмяшчальнямі густой тоўшчы ўсенароднага быцця («Спеў аб Гаяваце»)...

Хто ведае, можа зараз, у гэтыя дні нашай святочнасці, святочнасці, якая звязана для Куляшова з яго галоўнымі—камуністычнымі ідэаламі, у паэта спее яго самае важкае і істотнае слова пра сябе, пра час, пра ўсіх нас.

Свет Куляшова—заўсёды свет сапраўднай паэзіі. Бо і што такое паэзія, калі не вечная адданасць жыццю і ёй самой, яркасць пачуццяў, высокае напружанне душы і думкі, пазнанне сябе і людзей, вышэйшая форма чалавечага яднання—**дарога ў акіян чалавечнасці.**

## ДЭБЮТЫ-70

**Не кожнаму з артыстаў, жывапісцаў, кампазітараў, архітэктараў, аператараў, хто ўпершыню выступіў перад шырокай грамадскасцю ў 1970 годзе, абавязкова наканаваны просты лёс. Але «заяўкі» зроблены сур'ёзныя, крокі—упэўненыя...**

**Вядома, самым значным дэбютам-70 стала адкрыццё новага драматычнага тэатра ў Бабруйску. Гэта хораша — пачынаць творчае жыццё калектыву з востра-драматычнага і праўдзівага «Разгрому», з паказу фадзееўскіх вобразаў змагароў за ідэалы Кастрычніка!**

**Шчасціць на дэбюты і спектаклю «Яўгеній Анегін» на сцэне Беларускага Вялікага тэатра оперы і балета—тут выходзілі ў святло рампы многія пазней праслаўленыя салісты. Сёлета восенню ў оперы меламаны Мінска пачулі галасы і ацанілі артыстычныя здольнасці чатырох дэбютантаў — лаўрэатаў Міжнароднага конкурсу імя П. Чайкоўскага ў Маскве Валерыя Кучынскага і Аляксандра Рудкоўскага, дыпломніка Маскоўскай кансерваторыі Яраслава Радыёніка і дырыжора Уладзіміра Машэнскага.**

**Дэбютавалі на вялікай сцэне і выхаванцы харэаграфічных вучылішч — маладыя балерыны і танцоўшчыкі ў спектаклі «Спячая прыгажуня».**

**Новыя прозвішчы чытаем мы ў подпісах пад карцінамі на выстаўцы «50 гадоў ЛКСМБ», у цітрах фільмаў «Беларусьфільм», на вокладках кніг і ў праграмах тэатраў у Гродне і Гомелі, Віцебску і Магілёве... Пра два з такіх дэбютаў—нататкі на гэтай старонцы.**

# ТАК ПАЧЫНАЕЦЦА ПАЛЁТ



Н. Паўлава—Аўрора. Ю. Траян—прынц.

Раней Ніна Паўлава мела ў балетных спектаклях на мінскай сцэне эпізоды і варыяцыі. І рабіла тое, што ёй даручалі, добра, старанна, з унутраным хваляваннем. Здавалася, гэта — прафесіянальная праца, вартая падтрымкі. І раптам—адна з самых складаных партый рэпертуару. Музычны свет Чайкоўскага. «Спячая прыгажуня». Аўрора... Удача? Не, танец Ніны Паўлавай у гэтым спектаклі — поспех. Апладысменты залы, словы партнёраў па сцэне, ветэранаў беларускага балета, крытыкаў, — усё пацвярджае, што ў біяграфіі маладой балерыны напісан першы радок.

Асабліва радасна вітаць Ніну нам, настаўнікам Мінскага харэаграфічнага, дзе яна авалодвала азбукай танца і законамі хараства ў мастацтве. Прыродныя рысы яе індывідуальнасці—выдатныя. Ёй хочацца, яна ўмее жыць у танцы. І мы не адзін раз у розных аўдыторыях бачылі якраз гэта ў Ніны — танец. Разам з іншымі вучаніцамі нашага вучылішча яна з поспехам выступала і за мяжой — яе добра прымалі ў Турцыі на Фестывалі культуры, дзе мінскія юныя артысты заваявалі два першыя прызы. Нініна па-дэ-дэ з «Карсара», асабліва славутыя 32 фуэтэ, імклівыя і выразныя, выклікалі захапленне гледачоў Стамбула і Анкары. Газеты тады падкрэслівалі прывабнасць талентаў Н. Паўлавай і Л. Бржазоўскай.

Але ў тэатры бывае па-рознаму. Ніну... не залічылі ў трупу тэатра. Трэба быць сапраўды адданым мастацтву чалавекам, натурай артыстычнай па прызванні, каб перажыць такі ўдар. Так гартаваўся характар працаздольны і апантаны мэтай. Давялося ўсё пачынаць, як кажуць, з пачатку— з масавых сцэн, з удзелу ў «фоне» для салістаў. І як часта здараецца— сустрэча з мастаком, які паверыў у цябе, «убачыў» цябе танцоўшчыцай сапраўднай, які дае табе партыю ў славутай «Прыгажуні» Чайкоўскага! Такім мастаком стала для Паўлавай ленінградскі харэограф Ніна Фёдарава. Гэта яе настойлівым патрабаваннямі даверыць Ніне партыю Аўроры абавязана цяперашнім поспехам юная балерына.

Партыя падрыхтавана ў кароткі тэрмін — месяц рэпетыцый. І гэта гаворыць на карысць Ніны. Яна ўмее яшчэ і «браць» ад настаўніка-майстра ўсё, што будзе спрыяць паглыбленню ў дух ролі і стварэнню пластычнага малюнка партыі. Можа, нават самае галоўнае—цвяроза ўспрымаць той давер, не спадзявацца на «аўтаматычнасць» пераходу ад колькасці ўрокаў-рэпетыцый да якасці твайго танца. Фёдарава тактоўна і рашуча вяла Ніну да Аўроры.

Вынік — бліскучы. Гаворачы «бліскучы», я не атаясамліваю гэта з дасканаласцю. Хараству і ў балеце няма межаў. І ўсё ж Ніна лёгка і тэхнічна пісьменна выконвае складаныя варыяцыі першага акта (у сцэне дрыяд), класічны дуэт апошняй дзеі. Напружання няма (ці так «схавана», што яго не заўважае нават пільнае вока)... Яе Аўрора, трапяткая і шчырая, часам нагадвае Наташу Растову, і ў такім параўнанні няма нічога штучнага, бо жаночую прагу да шчасця, перададзеную ў танцы, можна «прачытаць» і літаратурна. Можа, аддаўшы многа душэўных сіл першаму акту, Ніна ў другім выглядае больш стрыманай на раскрыццё перажыванняў гераіні, яе «выказванні» прыглушаныя. Значыцца, трэба яшчэ вучыцца размяркоўваць тэмперамент і сілы.

Вобраз удасканальваецца. Мабыць, Нінінай Аўроры заўтра будзе ўласціва больш выразная гама нюансаў у перадачы пераменлівых настрояў, а драматычныя акцэнты прагучаць на ўсю моц яе таленту.

Аўрора — першая вялікая роля Ніны. А я ў думках ўжо збіраюся на новы спектакль, хоць яшчэ і не ведаю, які ён будзе і якую партыю ёй даручаць. Думаю, што я не адзін такі прыхільнік гэтай танцоўшчыцы.

**Аляксандр КАЛЯДЭНКА,**
мастацкі кіраўнік харэаграфічнага вучылішча.

# СІВАЯ ГРУЗІЯ ПАД НЕБАМ БЕЛАРУСІ

Сустрэча з талентам — заўсёды свята для аматараў мастацтва. Па-асабліваму хвалюе сустрэча з талентам маладым, творчыя магчымасці якога яшчэ толькі-толькі раскрываюцца. Такой прыемнай падзеяй у музычным жыцці Мінска было першае выкананне сімфанічнай паэмы «Фрэскі» кампазітара Андрэя Мдзівані, нядаўняга выпускніка Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі, вучня народнага артыста БССР, прафесара А. Багатырова.

Паэма — твор праграмны. Дзве тэмы, пакладзеныя ў аснову паэмы (форма падвойных варыяцый), і асаблівасці гарманічнай мовы твора выклікаюць успаміны аб карцінах старажытнай Грузіі. Пачынаюцца «Фрэскі» ціхім харалам струнных і драўляных. У ім кампазітар перадае сваё адчуванне бегу часу, сівой старадаўнасці, «пылу стагоддзяў». Але вось трубы кідаюць ваяўнічы пакліч. Спакойны роздум закончаны.

Урачыста - стрыманая тэма любві да Радзімы пераклікаецца з харалам. Другая — страсны заклік да абароны Радзімы ад ворагаў. У рытмах ударных інструментаў адчуваецца рух імклівай конніцы.

Абедзве тэмы сплятаюцца ў бурным развіцці. І зноў гучыць харал, які ў паэме Мдзівані адыгрывае ролю інтэрмеца, звязвае і адначасова аддзяляе адну карціну ад другой.

...Ва ўсёй сваёй агністасці паўстае перад намі



Фота Ул. КРУКА.

тэмпераментная карціна вясёлага свята. Танцавальныя рытмы гэтай сцэны падкрэслівае рокат раяля. Для імітацыі гучання каўказскіх музычных інструментаў кампазітар выкарыстоўвае як рэзкае супрацьпастаўленне нізкага і высокага рэгістраў, так і характэрны тэмбр некаторых інструментаў аркестра — англійскага ражка, кларнета, габоя, скрыпкі.

Аўтар дэталізуе другую тэму: вылучае асобныя такты і свабодна іх вар'іруе, нібы прапануючы слухачам зблізку разгледзець дэталі фрэсак. Жартаўліва-задзірыстыя гукі кларнета і тубы змяняюць мінорныя інтанацыі габоя і флейтаў. Магутнасць гучання ўсё нарастае, пачынаецца бурны тэмпераментны танец. Паўторы рытмічнага малюнка ствараюць уражанне бясконцасці руху.

Музычны вобраз Радзімы набывае эпічны характар у кульмінацыі твора.

У апошні раз прыглушана гучыць харал. Ён затухае, сціхае, знікае, як знікаюць у аблоках вяршыні гор...

Андрэй Мдзівані нарадзіўся ў Грузіі. Як кампазітар склаўся ў Беларусі. І калі ў «Фрэсках» ён аддае даніну захаплення грузінскім мелодыям, то большасць сваіх твораў ён будуе на інтанацыях беларускага меласу (напрыклад, Другую сімфонію, над якой цяпер працуе). Ён — аўтар фартэпіянных мініяцюр, п'есы для флейты, санаты для віяланчэлі і фартэпіяна, кантаты «Беларускі край» на вершы Якуба Коласа, Першай сімфоніі, піша музыку да спектакляў. Любімы жанр кампазітара — сімфанічная музыка. Нядаўна ён напісаў яшчэ адну сімфанічную паэму — «Пахаванне Хатыні», якая была выканана Дзяржаўным сімфанічным аркестрам БССР на гастролях у Лідзе.

**Данат ЯКАНЮК,**
артыст канцэртна-эстраднага аркестра Беларускага радыё і тэлебачання.

СЯРОД КНІГ СЯРОД КНІГ

# КРЫНІЦА ТВОРЧАЙ СІЛЫ

Адказваючы на пытанне часопіса «Вопросы литературы» (1970, № 4), як дапамагае пісьменніку ў яго творчай практыцы зварот да ленінскіх прац, Іван Мележ спаслаўся на такі асабісты прыклад: калі ён пісаў раманы «Людзі на балоце» і «Подых навальніцы», яму не аднойчы прыходзілася сутыкацца са складанымі супярэчлівымі пытаннямі, якім трэба было даць («каб стварыць праўдзівы малюнак жыцця») сур'ёзнае тлумачэнне і правільную ацэнку. І самым надзейным дарадчыкам у сумненнях і пошуках пісьменніка былі для яго ленінскія працы, якія робяць велізарнае ўражанне не толькі сваім зместам, пераканальнасцю доказаў, але і стылем.

Ленінскія працы... Яны — крыніца творчай сілы, высокага натхнення мастака, яго ідэйны компас. Ленін вызначыў прынцыпы новай, сацыялістычнай літаратуры, якія леглі ў аснову яе творчага метаду. Як пісаў аднойчы А. Даўжэнка, Ленін дае мастаку крылы для палёту, ахоўвае яго самабытнасць, прымушае да суровай самакрытыкі, усяляе пачуццё грамаднай адказнасці перад сваім народам і чалавецтвам.

Савецкая мастацкая Ленініяна багатая і разнастайная. Шмат зрабіла і наша літаратуразнаўчая навука ў справе паглыбленага вывучэння ленінскіх прынцыпаў партыйнасці і народнасці, ленінскай тэорыі адлюстравання і многага іншага з неўмiручай тэарэтычнай спадчыны правадыра рэвалюцыі, што мае непасрэднае ці ўскоснае дачыненне да эстэтычнай думкі, тэорыі і гісторыі літаратуры і крытыкі. Шэраг такіх грунтоўных і цікавых даследаванняў з'явілася і ў сёлетнім юбілейным ленінскім годзе. У гэтай сувязі пэўны ўклад у літаратуразнаўчую навуковую Ленініяну ўнеслі і нашы беларускія даследчыкі. Мы маем на ўвазе зборнік «Ленін і літаратура», падрыхтаваны Інстытутам літаратуры імя Янкі Купалы Акадэміі навук БССР. Можна толькі пагадзіцца з тым, што гаворыцца ў прадмове да гэтай кніжкі: яна дапаможа чытачу паглыбіць яго ўяўленні аб ролі ідэйна-філасофскай спадчыны Леніна ў развіцці шматнацыянальнай культуры савецкіх народаў, аб гістарычных шляхах беларускай літаратуры, аб яе інтэрнацыянальным змесце і нацыянальнай самабытнасці.

Артыкулы, што змешчаны ў зборніку, даюць магчымасць у святле бессмяротных ленінскіх ідэй задумацца над складанымі эстэтычнымі з'явамі, больш грунтоўна ўсвядоміць многія з тых важных тэарэтычных пытанняў развіцця сучаснай беларускай літаратуры, якія хвалююць нашу літаратурную грамадскасць і шматлікую чытацкую аўдыторыю.

«У нашы дні, — адзначае В. Барысенка ў сваім артыкуле «Ленінскі прынцып партыйнасці ў літаратуры», — мастацкая літаратура, літаратурная тэорыя, эстэтыка, сталі шырокім полем ідэйнай барацьбы». Сапраўды, з кожным днём усё больш абвастраюцца спрэчкі вакол, напрыклад, такіх пытанняў, як сацыяльная функцыя літаратуры і мастацтва, іх роля і месца ў жыцці сучаснага грамадства. Абаронцы буржуазнай эстэтыкі дарэмна спрабуюць абвергнуць ленінскае вучэнне аб класавасці літаратуры і мастацтва. В. Барысенка спасылаецца ў гэтай сувязі на працы тэарэтыкаў мадэрнізму С. Спендэра і Т. Меера, якія лічаць перадавую ідэйнасць, а тым больш сацыялістычную, чужародным у адносінах да мастацкасці пачаткам, механічным дадаткам да вобразнай структуры твора.

Артыкул В. Барысенкі вызначаецца дакладнасцю фармуліровак і сцісласцю мовы. Даследчык асвятляе цэлы шэраг тэарэтычных праблем —партыйнасць ідэалогіі і партыйнасць мастацтва, партыйнае кіраўніцтва літаратурным працэсам і свабоду творчасці пісьменніка і г. д. Мне асабіста найбольш спадабаліся тыя старонкі артыкула, дзе тэарэтычныя палажэнні падмацоўваюцца прыкладамі з літаратурнага жыцця—мінулага і сучаснага. Так, гаворачы пра тое, што, кіруючыся ленінскім вучэннем, беларускае літаратуразнаўства за апошняе дзесяцігоддзе набрала сілу і зрабіла буйны крок наперад у сваім развіцці В. Барысенка зусім слушна адзначае і такі яго недахоп: яшчэ не пераадолена да канца тэндэнцыя да штучнага «выроўнівання» творчага развіцця таго ці іншага пісьменніка. Пры гэтым аўтар артыкула, абапіраючыся на ленінскі падыход да культурнай спадчыны, рашуча пярэчыць супраць спроб некаторых літаратуразнаўцаў ухіляцца ад разгляду і сацыяльнай ацэнкі слабых, а то і проста рэакцыйных бакоў творчасці В. Дуніна-Марцінкевіча, хоць увогуле гэты пісьменнік адыграў значную ролю ў развіцці беларускай літаратуры.

В. Барысенка акцэнтуе ўвагу ў сваім артыкуле і на такім прынцыпе, які таксама вынікае з марксісцка-ленінскай метадалогіі: эстэтычную прыроду мастацкіх твораў, іх грамадскае значэнне можна спазнаць толькі, калі спалучаеш сацыялагічны аналіз з аналізам эстэтычным. На жаль, такое спалучэнне сустракаецца ў працах нашых літаратуразнаўцаў і крытыкаў не так ужо часта. Нават у двухтомнай «Гісторыі беларускай савецкай літаратуры», якая з'яўляецца значным дасягненнем нашага літаратуразнаўства, недастаткова глыбока, па словах аўтара артыкула, раскрываюцца «эстэтычныя асаблівасці асобных літаратурных твораў».

На працягу апошніх пятнаццаці гадоў у савецкім літаратуразнаўстве і эстэтыцы актыўна абмяркоўваецца праблема нацыянальнага і інтэрнацыянальнага ў літаратуры і мастацтве. Гэтаму пытанню прысвечан цікавы і грунтоўны артыкул Н. Перкіна «Ленінскія прынцыпы інтэрнацыяналізму і беларуская савецкая літаратура». Даследчык пераканаўча даводзіць, што ленінскія прынцыпы інтэрнацыяналізму жывуць і дзейнічаюць на працягу ўсёй гісторыі беларускай савецкай літаратуры. У лепшых творах беларускай літаратуры 20—30-х гадоў, напрыклад, інтэрнацыяналізм нараджаўся «паступова, разам з умацаваннем саміх устояў сацыялістычнага грамадства». З часам дыялектыка нацыянальнага і інтэрнацыянальнага «паўстала перад пісьменнікамі як важная мастацкая праблема». Яна актыўна прысутнічала ў мастацкіх творах, якія былі напісаны ў перыяд Вялікай Айчыннай вайны і ў наступныя пасля вайны гады. Але «асэнсаванне таго, што мы называем адчуваннем сваёй нацыянальнай годнасці, свядомым праяўленнем інтэрнацыяналізму», асабліва паглыбілася ў сучаснай беларускай літаратуры.

Глыбокае даследаванне праблемы дало падставы Н. Перкіну прыйсці да абагульняючага вываду: у творах сучасных беларускіх пісьменнікаў значна ўзрасла маштабнасць мыслення—грамадзянскага і філасофскага, а, значыць, мысленне ў сэнсе яго нацыянальных межаў. Пры гэтым выразны, моцна падкрэслены інтэрнацыяналізм у поглядзе на свет, ва ўспрыманні падзей сучаснасці не азначае адрыву ад роднай глебы, растварэння нацыянальных пачуццяў у нейкай касмапалітычна-безасабовай усеагульнасці.

Цікавыя думкі мы знаходзім і ў артыкуле «У. І. Ленін і праблема творчай індывідуальнасці пісьменніка». Яе аўтар В. Івашын палемічна востра і доказна абвяргае хлуслівыя, беспадстаўныя сцвярджэнні розных буржуазных «саветолагаў», быццам ленінскі прынцып партыйнасці літаратуры ігнаруе індывідуальнасць пісьменніка, нівеліруе яго асобу, пазбаўляе яго творчай свабоды. Метад сацыялістычнага рэалізму дае магчымасць мастаку найбольш поўна раскрыць сваю творчую індывідуальнасць, стварае ўсе ўмовы для гарманічнага яго развіцця.

Нам здаецца, што ўвогуле добраму артыкулу В. Івашына не хапае «мясцовага матэрыялу», асабліва, скажам, калі даследчык піша наступнае: «пісьменнік у найбольшай ступені творчая асоба, калі ён ярка і шматгранна ўбірае ў сябе асаблівасці нацыянальнага жыцця і культуру свайго народа». Тут бы спаслацца на асобныя творы нашых беларускіх пісьменнікаў. Праўда, у адным месцы ёсць спасылка на Купалу і Коласа.

Беларускую паэтычную Ленініяну разглядае ў сваім артыкуле «Ленін у сэрцы» У. Гніламёдаў. У полі зроку даследчыка знаходзяцца, галоўным чынам, тыя мастацкія творы, што былі напісаны нашымі пісьменнікамі ў 50—60-я гады. Але ў артыкуле ідзе гаворка і пра першыя спробы намаляваць вобраз Ільіча, што прымушае даследчыка звярнуцца да паэмы М. Чарота «Ленін», паэмы З. Бядулі «Чырвона-чорная жалоба» і іншыя паэтычныя творы дваццатых гадоў, якія мелі «свае адметна нацыянальныя асаблівасці» ў абмалёўцы вобраза вялікага правадыра і настаўніка.

Што вобраз Леніна заўсёды ў сэрцы беларускіх мастакоў і яго ідэі «жывяць творчыя пошукі» нашых пісьменнікаў, У. Гніламёдаў добра паказвае на шматлікіх прыкладах сучаснай беларускай паэзіі. Магчыма, варта было б скараціць пералік імён паэтаў, што пісалі на ленінскую тэму (бо гэта надае некаторым месцам артыкула адценне калейдаскапічнасці), а больш засяродзіцца на аналізе асобных, найбольш значных твораў паэтычнай Ленініяны.

Пэўна, абмежаванасць месца не дало магчымасці і А. Мажэйку грунтоўна і шырока раскрыць тэму: «Ленін і свет». Хоць яго артыкул — «Дарагі народам свету (Старонкі беларускай паэтычнай Ленініяны)»—карысны і чытаецца з цікавасцю. А. Мажэйка мае рацыю, сцвярджаючы, што ў сусветную Ленініяну беларускія паэты ўнеслі хоць і сціплы, але свой уласны — адметны ўклад, і лепшыя іх творы атрымалі прызнанне не толькі ў нашай краіне, але і за мяжой.

У зборніку, на жаль, няма працы, якая б давала чытачу ўяўленне аб беларускай мастацкай празаічнай Ленініяне. Праўда, часткова гэтая тэма разглядаецца ў артыкуле Э. Гурэвіч «Па законах высокай чалавечнасці». Але ў ім гаворка вядзецца (і вядзецца кваліфікавана, доказна) пра ленінскую тэму ў дзіцячай літаратуры, дакладней, пра ленінскую гуманістычную канцэпцыю ў дзіцячай літаратуры. Такім чынам, тэма «Вобраз Леніна ў беларускай мастацкай прозе» яшчэ чакае свайго даследчыка.

Вядома, якую выключна вялікую ролю адыгралі і адыгрываюць жыватворныя ідэі Леніна ў развіцці шматнацыянальнай савецкай гісторыка-літаратурнай навукі і крытыкі, у тым ліку і беларускай. Нельга сказаць, што ў даследаваннях нашых беларускіх вучоных гэтае пытанне не асвятлялася. Але калі і пісалі аб ролі ленінскага тэарэтычнага вучэння ў станаўленні і развіцці беларускага літаратуразнаўства і крытыкі, дык толькі ў агульным плане. Артыкул М. Мушынскага «У. І. Ленін і некаторыя пытанні беларускай літаратурнай крытыкі» даследуе гэтае пытанне канкрэтна, на фактычным матэрыяле. Аўтар паставіў перад сабой мэту: прасачыць, як беларуская савецкая гісторыка-літаратурная, крытычная думка ў працэсе свайго развіцця абапіралася на ленінскае вучэнне аб літаратуры, на ленінскую філасофскую канцэпцыю культуры, ленінскае разуменне традыцый і наватарства і г. д. Даследчык робіць зусім правільна, калі разглядае не ўвесь працэс развіцця беларускай крытыкі, а толькі некаторыя пытанні яе гісторыі—пытанні традыцый і наватарства, народнасці і партыйнасці, творчага метаду літаратуры. Магчыма, што не з усімі меркаваннямі, выказанымі Мушынскім, можна пагадзіцца, але ўвогуле артыкул пакідае ўражанне навуковай дасведчанасці, добрага ведання матэрыялу, глыбокай зацікаўленасці аўтара ў даследуемай тэме.

У зборніку змешчаны яшчэ артыкулы М. Грынчыка—«Ленінскія ідэі народнасці літаратуры і развіццё беларускай паэзіі пачатку XX стагоддзя», Р. Гульман—«У. І. Ленін і некаторыя праблемы выдання спадчыны класікаў літаратуры», якія таксама ўносяць сваю карысную часцінку ў вывучэнне вялікай даследчай праблемы—Ленін і беларуская літаратура.

**Ісідар БАС.**

«У. І. Ленін і літаратура». Выдавецтва «Навука і тэхніка». Мінск, 1970.

# УСЁ ЖЫЦЦЁ—ПОДЗВІГ

У выдавецтве палітычнай літаратуры выйшла аповесць Валянціна Панамарова «Мяцежнае сэрца»—пра Героя Савецкага Саюза і Героя Сацыялістычнай Працы Кірылу Пракопавіча Арлоўскага. Гэта не першая кніга, прысвечаная вялікаму грамадзяніну, чалавеку, імя якога вядома далёка за межамі нашай краіны. І ўсё ж, кожны новы твор аб ім выклікае ў чытача нязменную цікавасць. «Так ужо, мабыць, павялося ў жыцці,—піша В. Панамароў,—што прыйдзі да чалавека вядомасць або тым больш слава,— вакол яго тут жа, неяк само па сабе, складаецца мноства расказаў і легенд...»

В. Панамароў сабраў багаты фактычны матэрыял, а затым у хранапагічнай паслядоўнасці выклаў яго. Пісьменнік, які многа гадоў ведаў свайго героя, адкрывае чытачу невядомыя старонкі біяграфіі чалавека, усё жыццё якога—подзвіг.

Мне, як земляку Кірылы Пракопавіча Арлоўскага, неаднаразова даводзілася сустракацца з ім у родных Мышкавічах, бачыць яго за працай і ў час адпачынку, на калгасных сходах і шматлікіх нарадах. І ўсё ж, прачытаўшы аповесць «Мяцежнае сэрца», маё ўяўленне аб гэтым чалавеку значна пашырылася і ўзбагацілася.

Жыццё Кірылы Пракопавіча —гэта яркі прыклад беззапаветнага служэння Айчыне, свайму народу. У першую імперыялістычную вайну ён быў камандзірам сапёрнага ўзвода. Тут, пад Баранавічамі, малады афіцэр пазнаёміўся з таварышам па зброі Аляксандрам Анісімавым. Простыя і зразумелыя словы петраградскага рабочага глыбока запалі ў душу Арлоўскага. Ад яго даведаўся ён пра Леніна і пра створаную ім партыю.

Пасля фронту кароткая перадышка і—зноў баі. Толькі цяпер з кайзераўскімі і пілсудскімі акупантамі. А потым—падпольная работа на тэрыторыі былой Заходняй Беларусі, барацьба з фашызмам, якая асабіста для Кірылы Пракопавіча пачалася яшчэ ў Іспаніі.

Тры раздзелы аповесці прысвечаны перыяду Вялікай Айчыннай вайны. У іх раскрываецца гераічная дзейнасць беларускіх народных мсціўцаў пад кіраўніцтвам Арлоўскага супраць гітлераўскіх акупантаў і іх паслугачоў. З вялікім хваляваннем чытаецца адзін з іх — «Апошняя аперацыя» пра тое, як партызаны зрабілі засаду на намесніка гаўляйтэра Беларусі Фрыдрыха Фенса. Гэтая аперацыя аказалася апошняй для Кірылы Пракопавіча. У час перастрэлкі фашысцкая куля трапіла ў дэтанатар толавай шашкі, і шашка ўзарвалася ў руках адважнага камандзіра. У выніку—ампутацыя правай рукі і пальцаў на левай.

В. Панамароў * падрабязна расказвае пра Кірылу Арлоўскага як пра старшыню калгаса «Рассвет», на чале якога ён знаходзіўся 24 гады. Важак сельскіх працаўнікоў па вайсковай звычцы часта паўтараў: «Шырэй крок!» і, як бы падмацоўваючы гэтую каманду, дадаваў: «Таварышы рассветаўцы!»

Мы не знойдзем у гэтай аповесці вычарпальнага расказу пра гісторыю сельгасарцелі, пра сённяшні стан яе эканомікі і арганізацыйную структуру. Гэта, піша аўтар, «патрабуе асаблівых ведаў, на якія, хоць і прынята ў нас лічыць, што ў сельскай гаспадарцы, як у футболе, мы ўсе спецы, я не прэтэндую». Але ўсё ж карціна станаўлення «Рассвета» паўстае даволі выразна ў разнастайнай мазаіцы фактаў, успамінаў, жывых сцэнак. Увага аўтара сканцэнтравана на Кірыле Пракопавічы Арлоўскім, на яго нялёгкай, але высакароднай працы.

Аповесць напісана жывой і сакавітай мовай, чытаецца лёгка, з цікавасцю.

На прыкладзе жыцця Кірылы Пракопавіча Арлоўскага наша моладзь будзе вучыцца непахіснай вернасці свайму патрыятычнаму абавязку.

**Л. КІСЯЛЁЎ.**

В. Панамароў. «Мяцежнае сэрца». На рускай мове. Выдавецтва палітычнай літаратуры. Масква. 1970.

# НОВЫЯ КОНТУРЫ СТАРОЙ ВЁСКІ



Тут размешчаны клуб, сельсавет і праўленне саўгаса.



Гэта — новы медыцынскі пункт.

Якіх толькі не ўбачыш вёсак, калі едзеш па сельскіх дарогах. І на дзесяць дамоў, і на сотні дамоў. Ёсць вёскі, дзе ўбачыш саламяныя стрэхі. І такія, дзе цагляныя дамы стаяць пад шыферам або жалезам. Ёсць вёскі з магазінамі, сталовымі, клубамі, заасфальтаванымі вуліцамі і ёсць такія, дзе вясной і ўвосень без ботаў не выйдзеш з двара. Амаль ва ўсіх вёсках убачыш тэлевізійныя антэны, і тут жа заўважыш зрубы калодзежаў. Адным словам, у сённяшняй вёсцы старое і новае пераплялося і перабліталася. Жыць стала зручней, але не заўсёды так, як хацелася б сельскім жыхарам.

Але ўжо шмат вёсак, а правільней сказаць — пасёлкаў, якія будуюцца па новых архітэктурных прынцыпах— кампактна, з сістэмай вуліц, з поўным інжынерным добраўпарадкаваннем, з усімі неабходнымі культурна-бытавымі ўстановамі. Гэта ўзоры сучаснага сельскага праектавання і будаўніцтва.

Адзін з іх — пасёлак Леніна Магілёўскай вобласці. Для перабудовы ён выбраны ў лік першых не выпадкова. Не таму, што яго лягчэй перарабіць на новы лад. Хутчэй наадварот.

На ўзгорках паблізу Леніна ў кастрычніку 1943 года прыняла першы бой польская дывізія імя Тадэвуша Касцюшкі. Тут у кровапралітных баях з гітлераўцамі парадніліся польскія і савецкія салдаты. У Леніна ўзведзена некалькі мемарыялаў. Сюды прыязджаюць тысячы людзей— сваякі загінуўшых салдат, іх баявыя сябры, экскурсанты, турысты. Яны атрымліваюць уражанні не толькі ад музея і агляду гістарычных узгоркаў. Тут у іх складваецца ўяўленне аб сённяшнім сельскім побыце, аб архітэктурнай культуры сяла. У пасёлку — цэнтр аднаго з буйнейшых на Магілёўшчыне саўгасаў. І таму пасёлак унесены ў спіс перспектыўных — насельніцтва яго расце, у хуткім часе тут будзе больш 2,5 тысяч жыхароў.

Некалькі гадоў назад планіровачная майстэрня «Белгіпрасельбуда» распрацавала генеральны план развіцця пасёлка. І пачаліся будаўнічыя работы. Зусім нядаўна генплан быў скарэкціраваны яго аўтарам А. Калніньшам пры ўдзеле А. Мажэйкі. Так што перспектыва пасёлка вядомая — можна ўявіць, якім стане Леніна праз пяць-дзесяць гадоў.

Але не менш цікава і тое, што ўжо зроблена, што ўжо атрымалі ў карыстанне жыхары, чым яны могуць хваліцца перад гасцямі.

Ужо заасфальтаваны дарогі, вуліцы і праезды да мемарыяльных цэнтраў, пабудаваны два двухпавярховыя 16-кватэрныя дамы, новая школа, яслі, кацельня, лазня, медпункт, клуб. Створана вадасховішча і ствараецца другое плошчай 60 гектараў. Склаўся ансамбль цэнтральнай плошчы.

Зроблена нямала. Па сутнасці справы, пабудаваны амаль усе асноўныя адміністрацыйныя і культурна-бытавыя будынкі. Яны сканцэнтраваны на плошчы або каля яе.

Адпаведна генеральнаму плану, плошча займае цэнтр пасёлка — на яе арыенціраваны ўсе пасялковыя кварталы. Тут стаіць помнік У. І. Леніну. Гэта даніна павагі правадыру, чыім імем бедная вёска Раманава першай сярод усіх вёсак і гарадоў краіны была названа ў 1921 годзе. Фонам помніку служыць элегантны фасад Дома культуры, пабудаванага па эксперыментальным праекце архітэктараў Г. Бяганскай, П. Бяляева і інжынера Г. Быстровай. Аўтары скааперыравалі пад адным дахам культурную і адміністрацыйную ўстанову. Левы бок будынка займаюць сельскі Савет, праўленне саўгаса і аддзяленне сувязі. Зала пасяджэнняў сельскага Савета ў свабодныя дні выкарыстоўваецца для культурных мерапрыемстваў — гутарак або лекцый. Дом культуры мае універсальную залу на 400 месц, абсталяваную сцэну, артыстычныя, памяшканні для гуртковых заняткаў, бібліятэку, буфет. Сцяна балкона ўпрыгожана манументальным роспісам на тэму баявой садружнасці савецкіх і польскіх салдат.

На плошчы стаіць яшчэ двухпавярховы будынак, у якім размясціліся рэстаран і магазіны. Ён пабудаваны па тыпавым праекце, але гэта не вельмі добра. Будынак «пасіўны», не мае свайго вобраза, проста нецікавы. Па гэтай прычыне для наступнай забудовы тыпавыя праекты выбіраюцца вельмі асцярожна.

Як арыгінальную работу трэба назваць медыцынскі пункт. Гэта таксама эксперыментальны праект, распрацаваны архітэктарам Г. Бяганскай. Сціплы, з цікавым рашэннем уваходу, будынак атрымаў своеасаблівую планіроўку. Другі паверх адведзены пад кватэры медыцынскага персанала. На першым размешчаны амбулаторныя пакоі, у цокальным паверсе знаходзіцца гараж «хуткай дапамогі». Блізкасць урачоў да кабінетаў зручная і ім самім і жыхарам, асабліва ў выпадках вострай неабходнасці. Гэта адпавядае сэнсу сельскага медыцынскага пункта.

Самым высокім будынкам пасёлка будзе шасціпавярховая гасцініца на 60 месц. Будаўніцтва яе пачата. Аўтары праекта — Г. Бяганская, Г. Заборскі, інжынер Г. Бусловіч — прынялі такую колькасць паверхаў не выпадкова, не дзеля таго толькі, каб Леніна стала першым у краіне сялом са шматпавярховай гасцініцай. Выбар прадыктаваны агульнай кампазіцыяй пасёлка. Акрамя таго, плошча патрабавала высокага арганізуючага будынка. Гасцініца будзе пабудавана з цэглы і атынкавана ў тон з навакольнымі будынкамі. Цокальны паверх, у якім размесціцца пасялковая аптэка, апранаецца ў прыродны камень. Да гасцініцы прымкне блок камбіната бытавых паслуг, які звязаны з ёй і фармальна, і кампазіцыйна. Блокам завяршаецца будаўніцтва грамадска-гандлёвага цэнтра, і з гэтага моманту пачынаецца планавая перабудова жылых раёнаў.

А зараз — аб агульнай будучай кампазіцыі пасёлка. У яе аснове — імкненне аб'яднаць між сабой і з пасёлкам досыць далёкія адзін ад аднаго мемарыялы, стварыць зручнасці для людзей і надаць пасёлку архітэктурную выразнасць.

Першая задача вырашана так. Шматпавярховая гасцініца выходзіць на бульвар, які вядзе да музея савецка-польскай дружбы. Праўда, бульвар перарываецца вадасховішчам, але візуальна сувязь працягваецца. Галоўная вуліца пасёлка ламаецца на невялікай плошчы і вядзе да месца пахавання польскіх воінаў. Гэта мемарыяльнае пахаванне і музей злучаны прамой дарогай.

Зона адпачынку развіваецца каля вадасховішчаў, якія, дарэчы сказаць, фарміруюць межы пасёлка. Для жылой забудовы праектуюцца розныя тыпы дамоў: двух-, трох- і васьмікватэрныя ў цэнтры, пяціпавярховыя кропкавага тыпу і двухпавярховыя ламанай канфігурацыі пры ўездзе ў сяло. У асобную зону выносяцца індывідуальныя дамы з прысядзібнымі ўчасткамі. Апрача таго, генеральны план намячае будаўніцтва стадыёна і крытых спартыўных залаў. Архітэктурна-інжынернае аблічча пасёлка будзе няпоўным, калі не дадаць многія кіламетры падземных камунікацый вадзянога ацяплення, каналізацыі, водаправода.

Вось што зроблена і што давядзецца яшчэ зрабіць у Леніна, каб пасёлак стаў архітэктурным узорам для вёсак, перабудова якіх яшчэ не пачалася.

Т. КАНСТАНЦІНАЎ.



Такой будзе ў пасёлку Леніна гасцініца.

# ПРАВА НА ЛЮДСКУЮ ЎДЗЯЧНАСЦЬ

БОЛЬШАСЦЬ будынкаў, праекты якіх распрацаваў Сяргей Сцяпанавіч Мусінскі, стаяць на Ленінскім праспекце Мінска. І невыпадкова, бо творчы шлях С. Мусінскага і пачаўся з праектавання планіроўкі ўчастка праспекта між плошчай Якуба Коласа і плошчай Калініна. Было гэта ў пачатку пяцідзесятых гадоў, калі пасля заканчэння Ленінградскай акадэміі мастацтваў архітэктар прыехаў у Мінск. Тады аблічча праспекта толькі пачынала акрэслівацца. Не было і паловы будынкаў, якія цяпер утвараюць яго ансамбль. Ад Камароўкі да парку Чалюскінцаў рэдка стаялі карпусы радыёзавода, політэхнічнага інстытута, Акадэміі навук.

Тут, у гэтым раёне, быў пабудаваны першы дом С. Мусінскага—інтэрнат БПІ, над праектам якога ён працаваў разам з С. Бяляевым і Г. Сысоевым. Інтэрнат прыкметны, ім адкрываецца архітэктурны ансамбль інстытута. Тут багата дэкору, ёсць нават вежка—у тыя гады распаўсюджаны прыём архітэктурнай даміканты. І ўжо ў гэтым будынку праглядвае тое, што потым стала характэрным для работ С. Мусінскага. Трапная кампазіцыя, адчуванне асяроддзя, настрою ансамбля, функцыянальнасць формы, простыя рашэнні—не такія ўжо прыватныя вартасці. Не выдзяляць будынак, а тактоўна ўводзіць яго ў пейзаж —вось чаго заўсёды стараецца дасягнуць С. Мусінскі.

Паглядзім на спартыўны корпус інстытута фізічнай культуры, пабудаваны па праекце С. Мусінскага. Пабудаваны побач з даваенным будынкам—прысадзістым, з шэрагам моцных пілонаў на бакавых фасадах. Як лёгка прадаўжае яго па характары новы корпус, хоць і вырашаны зусім па-іншаму. Апоры між вокнамі спартыўных залаў і пакояў маюць нешта ад настрою старога корпуса, кампазіцыйна яны здзяйсняюць пераход да чарговага будынка—вялікага жылога дома. Праект яго распрацоўваўся таксама С. Мусінскім разам з Л. Каджар. Суседства гэтых трох розных будынкаў прыемна арганізавана, яны складаюць цэласную кампазіцыю... Ансамбль іх жывы, выклікае цікавасць, хоць тут выразныя рысы архітэктуры «пераходнага» перыяду.

А вось яшчэ работы С. Мусінскага на праспекце—квартал ад вуліцы Друкарскай да плошчы Калініна. Гэта ўжо якасна новая архітэктура. Праўда, уваход у Батанічны сад вырашаны традыцыйна. Але традыцыйна—не азначае пасрэдна. Наадварот, каланада вылучаецца добрым густам і, як кажуць, дастасавана да месца. Побач з'явіўся будынак, непадобны на іншыя, лёгкі, стромкі, прыгожы, сучасны. Я маю на ўвазе дом з «матыльком», які стаіць на рагу праспекта і плошчы Калініна. Новае для таго часу канструктыўнае рашэнне — папярэчныя апорныя сцены — дазволіла палепшыць планіроўку кватэр, арганізаваць лоджыі, паказаць новае архітэктурнае аблічча, рытмічнае, самастойнае.



Праспект у гэтым месцы мае злом. І будынак тут архітэктурна дамініруе, узначальвае ансамбль плошчы і квартала. «Матыль» вянчае будынак, пластычна завяршае яго. Акрамя таго, ён маскіруе будку тэхнічнай надбудовы, стварае ўмовы для адпачынку на адкрытым даху. Па праўдзе кажучы, дзевяць паверхаў для будынка, які адкрываецца на масіў парка Чалюскінцаў і які бачны здалёк, малавата. Прыйшлося б да месца яшчэ некалькі. Але архітэктары заўсёды абмежаваны тэхнічнымі рамкамі. Магчымасці будаўнічай базы, недахоп ліфтаў—своеасаблівы дамоклаў меч, бо архітэктура больш цесна звязана з эканомікай, з рознымі галінамі прамысловасці, чым здаецца на першы погляд.

Адна з лепшых, як мне здаецца, работ С. Мусінскага—будынак выканкома гарсавета на плошчы Леніна (у сааўтарстве з Г. Сысоевым). Гэты будынак тактоўна, з тонкім густам уведзены ў ансамбль плошчы. Плошча наогул вялікая, і пакуль што не вельмі сабраная. На ёй шмат рознакаліберных будынкаў. Тут вылучаецца, на жаль, не вельмі прэзентабельны педагагічны інстытут.

Будынак гарсавета арганічна ўпісаўся ў забудову плошчы, не прэтэндуе на галоўную ролю ў ансамблі, сябруе з суседнімі будынкамі, але ён індывідуальны па характары архітэктуры. Кампазіцыя будынка знойдзена дакладна для гэтага месца. Ён арганізуе прастору. Вядзе не вертыкальную, як Дом урада і універсітэт, а гарызантальную тэму, і ў гэтых адносінах раўняецца на дамы, размешчаныя супраць. Яго фасад просты і строгі. Рытмізаваны строй пілонаў падкрэслівае адміністратыўны характар будынка. Гэта звонку.

Дэталёва распрацавана ўнутраная структура. У вестыбюлі верхняе і бакавое святло. Вестыбюль і холы раскрыты ў бок двара. Ажурныя лесвіцы, іх шкляная агарожа, панельныя вокны, нізкія падаконнікі, адкрытыя прыёмныя пакоі, спецыяльная мэбля лагічна аб'яднаны, маюць настрой, змястоўныя. Робіць уражанне яшчэ зала пасяджэнняў, дзе падвешаная столь і драўляныя рэйкі ўтвараюць багаты, але не парадны і не ўрачысты а сур'ёзны інтэр'ер. Наогул гэты будынак—прыклад таго, як простымі сродкамі можна стварыць выразную архітэктуру.

Яшчэ адзін цікавы будынак непадалёк. Гэта новы корпус гасцініцы «Мінск», над праектам якога С. Мусінскі працаваў разам з Д. Кудраўцавым і Г. Сысоевым. Гасцініца на плошчу не выходзіць, але добра відна з яе, і таму займае ў ансамблі плошчы пэўнае месца. Сярод мінскіх гасцініц гэтая, на маю думку, лепшая і па фасадах, і па інтэр'ерах рэстарана, кафэ, холаў. Кожны аб'ёмны элемент будынка мае асаблівае фармальнае адлюстраванне.

За ўдзел у распрацоўцы ўсіх гэтых будынкаў, што ўпрыгожваюць праспект, Сяргей Сцяпанавіч у ліку іншых архітэктараў быў удастоены Дзяржаўнай прэміі БССР.

З работ С. Мусінскага, якія выклікаюць вялікую цікавасць, трэба назваць Палац культуры камвольнага камбіната. Ён стаіць трохі ў баку ад галоўных магістраляў, і мінчане яго ведаюць менш. А шкада—Палац мае значныя вартасці. У рашэнні яго фасада ўжыты арыгінальны прыём—на фасад вынесены лесвіцы. Крывыя лініі лесвічных маршаў—адна з галоўных тэм. Невялікі па фронце Палац мае складаную структуру. У ім можна выдзяліць дзве, умоўна кажучы, зоны: святочную, якая развіваецца ўглыб—тамбур, вестыбюль, фае ў двух узроўнях, глядзельная зала; і рабочую—з дзесяткамі памяшканняў для заняткаў розных гурткоў, са спартыўнымі заламі, адміністрацыйнымі пакоямі.

Палац суседнічае з Лошыцкім садам, перад ім даволі вялікая плошча з ардынарнымі будынкамі. Палац не прыглушае іх сваёй архітэктурай, а сціпла бярэ на сябе ўвагу, стварае на плошчы мажорны лад. Тут яшчэ раз можна падкрэсліць, што С. Мусінскі не толькі архітэктар. Ён яшчэ і мастак, не толькі па адукацыі, але і па складзе натуры. Ён тонка адчувае асяроддзе, бачыць ролю і месца будынка ў пейзажы.

Аб усіх работах архітэктара расказаць цяжка, бо іх шмат. Сяргей Сцяпанавіч працаваў над праектамі санаторыя «Беларусь» у Сочы, кінатэатра «Мір», мікрараёна на Цнянскай вуліцы, новага комплексу студэнцкіх інтэрнатаў БПІ, выставачнага павільёна Саюза мастакоў.

С. Мусінскі кіруе пятай архітэктурна-канструктарскай майстэрняй у «Мінскпраекце». Тут зараз праектуюцца будынкі, якія маюць вялікае значэнне для горада. Жылыя шаснаццаціпавярховыя дамы, гандлёвыя цэнтры, новы стадыён са штучнай канькабежнай дарожкай і іншыя.

**К. ТАРАСАЎ.**

*ВЕКАПОМНАЕ*

# ЗА ЎЛАДУ САВЕТАЎ



СТАРАЯ, пажаўцелая фатаграфія. Чалавека гэтага даўно няма, але здымак назаўсёды адлюстраваў дапытлівы позірк. Выгарэў здымак, выгарэў і надпіс на адвароце. Ледзь прыкметныя чарнільныя радкі захавалі скупыя словы: «Фёдар Андрэевіч Казубоўскі — камандзір другога Палескага палка ў 1918 годзе. Ураджэнец сяла Багушова».

Гэтая фатаграфія знаходзіцца ў Пінскім краязнаўчым музеі. Яна захоўвае памяць пра героя-земляка, які праславіўся ў гады грамадзянскай вайны. Але так здарылася, што на радзіме пра яго амаль нічога не ведалі. Давялося шукаць дакументы, спісваца з роднымі Казубоўскага, з людзьмі, якія добра ведалі яго.

Так нарадзіўся гэты артыкул. Напісаны ён па ўспамінах сястры Казубоўскага Вольгі Андрэеўны, былых байцоў другога Палескага палка С. Цішука, Ф. Вакуліча, камандзіра роты палка Т. Яваровіча, якія жывуць у Пінску, жыхара вёскі Плешчыцы А. Віткоўскага, удзельніка Дамбровіцкага паўстання Ф. Пірышкі і па матэрыялах Цэнтральнага архіва Савецкай Арміі.

...Скупыя радкі з даведкі архіва: «Да Кастрычніцкай рэвалюцыі Ф. А. Казубоўскі закончыў Смаленскі настаўніцкі інстытут, у 1916 годзе быў узяты на ваенную службу і прыняў удзел у першай сусветнай вайне ў складзе 16-га армейскага кавалерыйскага палка, у 1917 годзе пасля ранення вярнуўся на Палессе і настаўнічаў».

Радчыцк і Калоднае—суседнія вёскі. Казубоўскі працаваў у Радчыцкай школе, а жыў у Калодным.

Цёплымі вясновымі вечарамі, калі водар квітнеючых садоў п'яніў маладыя сэрцы, Фёдар браў гітару, кранаў струны, і каля дома Казубоўскіх збіралася моладзь. Спявалі песні, спрачаліся.

Аднойчы вечарам у акно рэзка пастукалі. Федзя расчыніў акно. Нейчая постаць кінулася ўбок, і хлопец пачуў:

—Не бунтуй моладзь, інакш дрэнна будзе!

Доўга не мог заснуць Казубоўскі. У тую ноч у Фёдара і нарадзілася думка выпусціць нелегальную газету, якая б расказала людзям праўду, клікала на барацьбу з нямецкімі акупантамі, з памешчыкамі і нацыяналістамі.

Назаўтра Фёдар з сябрамі ўжо абмяркоўваў план першага нумара. А праз некалькі дзён на платах, на дамах багацеяў і іх прыхваснаў з'явілася газета «Лясное рэха».

— Калі пайшоў брат у Чырвоную Армію,—расказвае сястра Фёдара Казубоўскага Вольга Андрэеўна,— я знайшла ў хляве самаробны гектограф і паперу. Здагадалася, што тут друкавалася газета. Часткі друкавальнай машынкі захаваліся ў мяне да гэтага часу. Яны нагадваюць мне той трывожны час і маладосць брата...

Вось яшчэ скупыя радкі дакументаў:

«Увосень 1918 года Фёдар Казубоўскі арганізаваў і ўзначаліў Палескі камуністычны атрад, які дзейнічаў у раёне сёл Калоднае і Радчыцы, што на Століншчыне. З развіццём партызанскага руху на Палессі і арганізацыяй Палескага абласнога паўстанцкага рэвалюцыйнага камітэта ў канцы 1918 года, ён быў выбраны членам Палескага рэўкома. Пасля аб'яднання ўсіх партызанскіх атрадаў у другі Палескі камуністычны паўстанцкі полк, які адыграў рашаючую ролю ў Палескім паўстанні, Ф. А. Казубоўскі быў прызначаны камандзірам гэтага палка. Ён змагаўся супраць немцаў, гайдамакаў, Скарападскага, пятлюраўцаў, а ў пачатку 1919 года — з белапалякамі ў Сарнах, Пінску, Луніцы, Кобрыне».

Стаяў лістапад 1918 года. Каб закрыць шляхі немцам, якія, адступаючы, вывозілі нарабаванае дабро, байцы Казубоўскага павялі наступленне на Сарненскі чыгуначны вузел. Занялі станцыю і дэпо, раззброілі нямецкі эшалон. Але хутка стала вядома, што акупанты вырашылі адбіць станцыю. Разгарэўся гарачы бой, у якім Фёдар быў кантужаны. Байцы вынеслі яго на руках з поля бою.

Хутка ва ўсім Сарненскім павеце была аднаўлена Савецкая ўлада, толькі Пінск заставаўся ў руках немцаў. Згодна з дагаворам, акупанты павінны былі пакінуць горад без бою. Але з іх ведама ў Пінску з рознага кулацкага і памешчыцкага зброду быў сабраны контррэвалюцыйны атрад.

Зімой 1919 года другі Палескі полк рашыў заняць горад. На ўсходняй ускраіне высадзіліся два эшалоны байцоў. Гайдамакі сустрэлі іх агнём. Завязаўся ўпарты бой. Частка чырвоных воінаў трапіла ў палон, астатнім давялося адступіць. Тады Казубоўскі прапанаваў немцам ультыматум: «Калі не адпусціце палонных чырвонаармейцаў, не пакінеце добраахвотна горад, ні адзін эшалон з фронту не будзе прапушчаны».

Нямецкае камандаванне прыслала сваіх афіцэраў на перагаворы. Але Казубоўскі адмовіўся размаўляць з імі і патрабаваў прадстаўнікоў ад салдат.

Тым часам падышлі рэгулярныя часці Чырвонай Арміі. Другі Палескі полк уліўся ў склад 17-й дывізіі.

...Мы сядзім з Вольгай Андрэеўнай у доме яе сына Яўгенія ў Малатковічах. З вуліцы даносяцца галасы ўнукаў. Вось яны прыйшлі ў пакой, прыслухаліся да нашай размовы і прыціхлі. Здагадаліся, што гаворка ідзе пра дзеда, партрэт якога вісіць на сцяне. Таму што заўсёды, калі бабуля расказвае аб ім, на яе твары з'яўляюцца расінкі слёз.

Усё, што звязана з імем брата, Вольга Андрэеўна захоўвае вельмі беражліва. Тут і пісьмы, і віншаванні, і фотаздымак Фёдара, на якім ён зняты разам са сваімі супрацоўнікамі, калі працаваў дырэктарам Інстытута гісторыі матэрыяльнай культуры АН УССР (1934—1936 гг.) і прафесарам археалогіі Кіеўскага дзяржаўнага універсітэта імя Т. Р. Шаўчэнкі. Тут і фотакопія першай навуковай работы Фёдара Андрэевіча Казубоўскага, якая называецца «Запіскі археалагічнага даследавання каля мястэчка Каросцень, 1925 г.» А зверху надпіс: «Гэту кнігу я дару міламу Славіку, каб ён напісаў яшчэ лепшую. Тата».

Вольга Андрэеўна тлумачыць:

— Зараз Славік з маці і братам жывуць у Кіеве. Фёдар як у ваду глядзеў. Вось першая навуковая работа Святаслава.— Яна працягвае кніжку ў цёмным пераплёце: «Аўтаматычныя карэляцыйныя вымяральнікі хуткасці». Аўтар — інжынер-кібернетык С. Ф. Казубоўскі.

— Шкада,—гаворыць Вольга Андрэеўна,—не захавалася Ганаровая грамата Рэвалюцыйнага ваеннага савета, якой Фёдар быў узнагароджаны ў 1919 годзе.

...Невялікі пакой. Тут усё нагадвае пра Фёдара Андрэевіча Казубоўскага: і яго партрэты на сценах, і дакументы, што акуратна складзены ў папцы. Я зноў і зноў перабіраю іх і перада мной паўстае вобраз мужнага камандзіра другога Палескага палка, аднаго са слаўных чырвоных палкоў, што абяссмерцілі сябе ў гады грамадзянскай...

**С. ЛІТВІНЧУК.**

Вёска Багушова—Малатковічы, Пінскі раён.

# ДУХОЎНАЯ І ЖЫЦЦЁВАЯ ДАЛЯЧЫНЬ

У НЯДЗЕЛЮ, 1 лістапада, у канцэртнай зале Беларускай дзяржаўнай філармоніі адбылася творчая справаздача кампазітара Я. Глебава, аўтара цікавых твораў у галіне балетнай, сімфанічнай, тэатральнай музыкі.

Праграма вечара вельмі разнастайная, сімфонія суседнічае з танцавальнай сюітай, араторыя — з самбай і хабанерай.

Жывое, эмацыянальнае ўступнае слова музыказнаўцы Алены Ракавай увяло слухачоў у кола глебаўскіх вобразаў.

У першым аддзяленні прагучала Трэцяя сімфонія — твор арыгінальны, сучасны. Тут Глебаў раскрыўся як мастак-мысліцель, які ўмее абагульніць складаныя з'явы рэчаіснасці, як майстар аркестроўкі, які ўмела карыстаецца ўсімі адценнямі аркестравай палітры, як наватар, які знайшоў новую выразную форму (3-частковая кампазіцыя, уключэнне саліруючага фартэпіяна). Выканаўцы — лаўрэат Міжнароднага конкурсу імя П. І. Чайкоўскага Э. Міянсараў і Дзяржаўны сімфанічны аркестр БССР пад кіраўніцтвам В. Катаева—здолелі данесці да слухача ўсю глыбіню вобразаў сімфоніі.

З нецярплівасцю чакалася выкананне нядаўна напісанай араторыі «Свяці, зара», прысвечанай 100-годдзю з дня нараджэння У. І. Леніна. Кампазітар вызначыў жанр гэтага твора, як «араторыю ў пяці патрыятычных навелах». У ім выкарыстаны вершы беларускіх паэтаў А. Астрэйкі, П. Броўкі, М. Хведаровіча, М. Танка, А. Звонака, А. Вольскага. Падборка вершаў, на мой погляд, не вельмі ўдалая, таму што выкарыстанне тэкстаў шасці паэтаў з рознымі творчымі індывідуальнасцямі ўносіць пэўную стылёвую няроўнасць.

Нельга не аддаць належнага прафесіянальнаму майстэрству кампазітара, але эмацыянальны настрой музыкі араторыі, яе мастацкая значнасць, як мне здаецца, не на належнай вышыні. Музычная мова араторыі бедная. Шырокае выкарыстанне невыразных інтанацый, бравы акампанемент у духу традыцый не лепшых масавых песень — не адпавядае крыху прэтэнцыёзнаму вызначэнню жанру. Ад араторыі тут толькі вялікая колькасць выканаўцаў, але ніяк не грандыёзнасць, значнасць зместу.

Зусім іншае ўражанне зрабіла першая сюіта з балета «Выбранніца», музыка якой сведчыць аб высокім прафесіяналізме кампазітара, вялікай вынаходлівасці ў выбары аркестравых сродкаў, віртуозным валоданні прыёмамі музычнай выразнасці.

Складаная і цікавая рытміка музыкі сюіты. Радуе майстэрства, з якім Глебаў сучаснымі сродкамі ствapae нацыянальны каларыт, дасягае вобразнасці, кампазіцыйнай цэласнасці.

У заключэнне канцэрта прагучалі фрагменты з балета «Мара» і «Мушкецёры» з «Харэаграфічных навел». І мы яшчэ і яшчэ раз пераканаліся, што Я. Глебаў — майстар балетнай музыкі, які валодае добрым густам і пачуццём меры, свежасцю музычнай мовы, а галоўнае—сучаснасцю мыслення.

Я. Глебаў—кампазітар удумлівы, своеасаблівы. Дык няхай жа шчырасць, глыбіня і няўрымслівасць будуць галоўнымі ў яго творчасці.

Ірына МІЛЬТО.

# БАХ ДАЛЁКІ І БЛІЗКІ

«АРГАННАЙ ІМШОЙ» — адным з шэдэўраў Баха пачаўся днямі ў Мінску цыкл канцэртаў, які дае арганіст А. Янчанка. Упершыню ў Савецкім Саюзе будуць выкананы ўсе арганныя творы кампазітара. Цыкл складаецца з 15 канцэртаў і разлічаны на два гады.

«Арганная імша» І. Баха — даволі своеасаблівы твор. Ён пачынаецца з шырокай, урачыста-велічнай прэлюдыі ў мі-бемоль мажоры. У канцы імшы Бах вяртаецца да той жа танальнасці ў манументальнай трайной фузе. Паміж гэтымі грандыёзнымі настроямі мы сустракаем больш дваццаці харальных прэлюдый, напісаных на аснове «Песень катэхізіса».

Харальныя мелодыі Баха звязаны з элементамі лютэранскага веравызнання, якое страціла ў XVIII стагоддзі свой прагрэсіўны рэфармацыйны характар і ператварылася ў афіцыяльную рэлігію. Але ў творах Баха старая форма напоўнілася свецкім зместам. Незвычайная паэтычная лірыка, шырыня думкі і веліч выйшлі за рамкі дагматаў веры, сцвярджаючы прыгажосць чалавечага характару, прыгажосць ператварэння свету.

Нас прыцягвае да «Арганнай імшы» Баха і тая акалічнасць, што яна адносіцца да перыяду творчага росквіту кампазітара, адлюстроўвае вялікае майстэрства, шырыню кругагляду і жыццёвы вопыт геніяльнага мастака.

Радасна адзначыць, што Алег Янчанка аказаўся тонкім інтэрпрэтатарам, які здолеў поўна і пераканаўча перадаць слухачам жыццесцвярджальны пафас бахаўскай музыкі.

Чацвёрты раз выконвае А. Янчанка гэты твор, і кожны раз пры перапоўненай зале. Твор Баха, напоўнены глыбокім лірыка-псіхалагічным роздумам кампазітара аб сэнсе жыцця і месцы чалавека ў прыродзе, аказаўся блізкі па духу нашаму сучасніку.

Нікольні не змяняючы стылю Баха, А. Янчанка дасягнуў дзівоснай цэласнасці ў перадачы складанай архітэктонікі імшы.

Зараз мы можам адзначыць, наколькі глыбей, ярчэй і стрАйней задума выканання імшы ў А. Янчанкі, чым у нямецкага арганіста А. Веберзінке. Справа ў тым, што фірма «Мелодыя» выпусціла запіс «Арганнай імшы» ў выкананні Амадэуса Веберзінке. Апошні прыбягае да спрашчэння ў трактоўцы, адмаўляецца ад выканання дзевяці «малых» прэлюдый. Гэта рэдакцыя імшы пазбаўляе яе інтымнага, лірычнага зместу.

І якое багацце фарбаў у натхнёна-маляўнічай і змястоўнай ігры А. Янчанкі! Шырокі дыяпазон настрою імшы — ад лірычных сузіральных назіранняў чалавека да магутнага выказвання пратэсту супраць сіл зла перададзены музыкантам пластычна яркай, змястоўнай мовай.

Цяжка перадаць тое адчуванне радасці, якое нараджае ў нас серабрыста-пяшчотны спеў аргана ў нумарах «gloria», «Die Taufe», «Fuga super», якія расказваюць аб светлых і сумных хвілінах у жыцці чалавека. Акрыляе магутнае гучанне аргана ў прэлюдыі і фузе мі-бемоль мажор.

Радасны настрой, выдатна перададзены А. Янчанкам у трайной фузе, малюе чалавека, які скінуў кайданы духоўнага і фізічнага рабства, чалавека, перад якім адкрыліся далі неаглядныя, што вабяць яго да новых здзяйсненняў.

Цудоўна выкананая «Арганная імша» І. Баха Алегам Янчанкам дазваляе спадзявацца на поспех усяго грандыёзнага цыкла.

Уладзімір ЯФРЭМАЎ.

## НА МУЗЫЧНАЙ «СЕРАДЗЕ»

У Саюзе кампазітараў Беларусі адбылася чарговая «музычная серада». Аматарам музыкі, якія на гэты раз сабраліся ў невялікай утульнай зале Саюза кампазітараў, была прапанавана даволі змястоўная праграма.

Новы твор П. Падкавырава — Трэці струнны квартэт выканаў квартэт Саюза кампазітараў.

У выкананні саліста Беларускага дзяржаўнага тэатра оперы і балета А. Бокава прагучала песня Ю. Семянякі на словы А. Бачылы «Радзіме».

Малады беларускі кампазітар І. Лучанок паказаў на «серадзе» тры песні: «Зноў у роднай школе» на тэкст А. Вольскага, драматычна-напружаную, суровую песню на словы Пятрэнкі «Хатынь» і «Баладу аб мужнасці» на тэкст Штормава, прысвечаную гераічнаму подзвігу маёра Івана Шчарбо, які страціў зрок пры разміраванні зямель Алжыра.

Закончылася «серада» праслухоўваннем «Мінскай сюіты» К. Цесакова, якая прагучала ў запісе ў выкананні аркестра Беларускага радыё і тэлебачання пад кіраўніцтвам Б. Райскага.

У абмеркаванні новых твораў прынялі ўдзел музыказнаўцы А. Ладыгіна, Л. Аўэрбах, Л. Мухарынская, кампазітар Г. Вагнер і аўтары твораў.

## У РЭДАКЦЫЮ ГАЗЕТЫ «ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА»

*Выдавецтва «Беларусь» даводзіць да ведама чытачоў газеты «Літаратура і мастацтва», што ў новым даведніку «Пісьменнікі Савецкай Беларусі» ў біяграфічнай даведцы пра Янку Брыля дапушчана недакладнасць біяграфічнага характару.*

*Пасля слоў: «Увосень 1941 г. уцёк з палону, вярнуўся ў родную вёску» трэба чытаць: «З кастрычніка 1942 г. сувязны партызанскай брыгады імя Жукава, з сакавіка 1944 г. рэдактар газеты «Сцяг свабоды» (орган Мірскага падпольнага РК КП(б)Б) і сатырычнага антыфашысцкага лістка «Партызанскае жыгала». І далей як у тэксце.*

Дырэктар выдавецтва «Беларусь»
З. МАТУЗАЎ.

●

*Паважаны таварыш рэдактар!*

*Выказваем сардэчную падзяку беларускім пісьменнікам і шматлікім сябрам, якія падзялілі з намі гора з прычыны смерці нашага дарагога Паўла Сямёнавіча Кабзарэўскага.*

Сваякі і блізкія
П. С. Кабзарэўскага.

ПРА ТЫХ, КАГО НЕ БАЧЫЦЬ ГЛЯДАЧ

# НАЧАЛЬНІК ТЫЛУ

У ТЭАТРЫ — прэм'ера. Вось ужо гучаць апошнія рэплікі акцёраў, некалькі секунд цішыні і... апладысменты. Гэта падзяка гледачоў за добры спектакль яго стваральнікам — аўтару, рэжысёру, мастаку, артыстам.

Адразу ж за парогам тэатра пачынаюцца дэбаты аб рэжысёрскім почырку, аб дэкарацыях, аб выкананні артыстамі той ці іншай ролі. І, відаць, ніхто з нас, гледачоў, ніводным словам не ўспомніць пра работу загадчыка мастацка-пастановачнай часткі. А калі сказаць шчыра, дык мала хто наогул ведае, што ў тэатры існуе такая пасада. Што для таго, каб спектакль атрымаўся, гэты чалавек аддае не менш сіл, энергіі і творчай выдумкі, чым усе астатнія стваральнікі тэатральнага свята.

Задуму мастака, адлюстраваную ў эскізе ці ў макеце, ажыццяўляе ў тэатры пастановачная частка, якая ў той ці іншай меры сутыкаецца з усімі ўдзельнікамі спектакля. Усё тое, што дапамагае акцёру пераўвасабляцца ў вобраз, — грым, касцюм, прадметы ўжытку— вынік работы пастановачнай часткі тэатра.

У Рэспубліканскім тэатры юнага гледача ўсёй гэтай складанай механікай кіруе Аляксандр Самойлавіч Сагальчык. Ён бярэцца за справу, як толькі п'еса зацверджана на мастацкім савеце, і сочыць за жыццём спектакля да апошняга яго прадстаўлення.

Акцёры паважаюць Аляксандра Самойлавіча, бо ён заўсёды з'яўляецца тады, калі неабходна добрае слова, сяброўская парада, падтрымка. А калі ставіцца спектакль пра вайну, дык Сагальчык проста неабходны чалавек. Ён ведае ўсе песні той пары — ад «Свяшчэннай вайны» да «Сіняй хусцінкі», асаблівасці формы ўсіх радоў войск, а некаторыя пункты строгіх армейскіх статутаў «адрапартуе», быццам і сёння ён салдат. Яму вераць, яго паважаюць. Больш таго: калі Сагальчык скажа пра маладога акцёра-пачаткоўца, што з яго будзе толк, можна лічыць, што той вытрымаў самы адказны экзамен у самага пільнага гледача, і быць яму сапраўдным артыстам.



Аляксандр Самойлавіч і сам пачынаў акцёрам. Працаваў у даваенным тэатры юнага гледача пасля заканчэння тэатральнай студыі разам з сённяшнімі вядучымі артыстамі беларускага дзіцячага тэатра У. Говарам-Бандарэнкам, Л. Міхайлавым, П. Ротэр... І хто ведае, можа лёс яго склаўся б паіншаму, калі б не вайна.

Калі глядзіш на гэтага сціплага, спакойнага, ураўнаважанага чалавека, неяк не верыцца, што за плячыма яго—цяжкія выпрабаванні ў варожым палоне, актыўны ўдзел у антыфашысцкім руху вязняў лагераў смерці. Аляксандр Самойлавіч не любіць пра гэта ўспамінаць — відаць, балюча... Зрэшты, пра ўсё гэта—гаворка асобная...

Аляксандр Самойлавіч палюбіў сваю работу. Ён надзвычай уважлівы ў адносінах да ўсіх, хто працуе разам з ім,—рэквізітараў, касцюмераў, бутафораў...

У Беларусі няма спецыяльнай навучальнай установы, дзе б рыхтаваліся кадры для работы ў пастановачнай частцы. У тэатр прыходзяць людзі, якія не маюць ніякага ўяўлення аб складанай механіцы тэатральнага спектакля, часта проста выпадковыя людзі. І гэтая акалічнасць уносіць дадатковыя цяжкасці ў нялёгкую працу Аляксандра Самойлавіча. Яму даводзіцца кіраваць не толькі работай сваёй «лабараторыі», але і вучыць моладзь беражліва адносіцца да прадметаў афармлення, таму што для гледача кожны спектакль з'яўляецца новым, і пастановачная частка, як і акцёры, павінна захоўваць яго ў такім стане і парадку, як і на першым прадстаўленні.

Чаго толькі ні робіць чалавек, які пастаўлены ў тэатры на пасаду, калі гаварыць вайсковай мовай, «начальніка тылу»! Ён будуе зручны для выканаўцаў роляў «свет», дзе ім даводзіцца «жыць» на працягу спектакля, — то амаль рэальны (скажам, такімі былі інтэр'еры ў пастаноўках п'ес Івана Козела), то казачны (іншым і не можа быць «свет» Чыпаліна або герояў Бядулевай «Сярэбранай табакеркі»), то па-сучаснаму дэкаратыўна-ўмоўны («Палёт»)... Там, на пярэднім краі, на сцэне, уся ўвага аддаецца акцёру. І «начальнік тылу» павінен забяспечыць яму гранічна праўдзівы, створаны па законах тэатральнага мастацтва, яркі «фон». А гэты «фон» часта робіцца «асяроддзем» і нават «удзельнікам» спектакля, бо падкрэслівае месца і характар дзеяння, уплывае на фантазію і акцёраў, і гледачоў. «Фон» узнімаецца да «клімату» спектакля.

А сам Аляксандр Самойлавіч, мабыць, рэдка лічыць сябе «начальнікам тылу», ён, як кажуць, па звычцы раніцай і ўвечары «ідзе на службу». Ды толькі служба ў яго такая, што вымагае ад яго вынаходлівасці казачніка і дзелавой засяроджанасці інжынера, фантазіі і матэматычнага разліку. Каб які-небудзь зайка ці ліс выглядаў на сцэне пераканаўча для самых дапытлівых гледачоў — для першакласнік, а ваенны лётчык пераконваў не менш «прыдзірлівых» хлопцаў і дзяўчат з сёмых і нават дзесятых класаў. Так, вядома, перш-наперш усё залежыць ад акцёра. Але ж уся экіпіроўка—гэта ад яго, ад «начальніка тылу».

І яшчэ яму трэба сябраваць з калегамі па працы, бо ў тэатры наогул, а ў пастановачнай частцы тым больш, нічога добрага быць не можа, калі твае падначаленыя выконваюць абавязкі казённа, толькі па службовым абавязку.

Аляксандр Самойлавіч з тых, каго называюць апантанымі ў мастацтве, ён аддань тэатру, працы. Шмат часу ён аддае ўдасканальванню тэхнікі механізацыі сцэны. Многія яго прапановы прыняты на ўзбраенне пастановачнымі часткамі іншых тэатраў. Ён прымаў удзел у рэканструкцыі сцэны тэатральна-мастацкага інстытута, распрацоўваў тыпавыя праекты сельскіх клубаў... І заўжды спяшаўся на вуліцу імя Энгельса, да будынка «свайго» тэатра, ля якога стаяць скульптуры піянераў: тут яго дом.

І ўсё атрымліваецца ў гэтага чалавека натуральна, без фальшу і позы. Чыстасардэчнасць Сагальчыка, мабыць, і спрыяе яго аўтарытэту ў вялікім творчым калектыве, дзе кожны адказвае за ўсіх, а ўсе за такога адданага справе таварыша ўжо сама па сабе садзейнічае агульнаму поспеху, памагае ствараць творчую атмасферу.

Ірына БУР'ЯН.

Паэтычная ПАВЕРКА

Аляксей ЗАРЫЦКІ

# ЖЭНЕЎСКІ БАРЭЛЬЕФ

Выгнаннікам розных народаў і станаў,—
Ці гнаў іх канвент,
Ці прастол,
Ці амвон,—
Давала калісьці Жэнева прыстанак,
Так ужо там павялося здавён.

І кожная вуліца,
Кожны завулак
Там чулі выгнанніка горасны ўздых.
Знаходзілі там гугеноты прытулак
І знатныя слугі манархаў былых.

Ды служак імёны засыпала пылам:
І час іх прабіў,
І народ іх забыў.
Там Герцэн няўрымслівы сэрцам,як
білам,
У звон спадзявання нязломнага біў.

З гадоў быццам з крэмня агонь
выкрасайце,
Нібыта маланкі з нахмураных хмар.
Калі растапталі Камуну версальцы,
Шукаў да Жэневы шляхоў камунар.

Выгнаннікі рускія,—ім ужо глянуў
У вочы чаканай заранкі прамень.
Народнікі спрэчкі вялі там,
Пляханаў
Адтуль прывітаў надыходзячы дзень.

О рэха мінуўшчыны гэтай няблізкай,
Як дорага ты нашай чыстай вясне,
Адбіся ад скал крутагрудных альпійскіх,
Гучы і гучы. галасней, галасней.

Адвейвае час пыл разваг неглыбокіх,
Кладзе забыццё на нясталасць пячаць.
Нязмоўчна Уладзіміра Леніна крокі
На бруку жэнеўскім і сёння гучаць.

І ён быў выгнаннік,
І ён па Расіі
Тужыў на чужыне з сябрамі тады.
Як вочы прыволжскіх прастораў прасілі,
Як сэрца імкнулася ўладна—туды!

Ды ён праз сіберную скруху выгнання
Прайшоў, не схіліўшы нідзе галавы,
Над светам узносячы быццам світанне
Чаканай свабоды штандар агнявы.

Вось так ён прайшоў, барацьбіт
нескароны,
Увесь, як надзея, праз тыя гады.
Таму гэтак шчыра на беразе Роны
Шануе народ Ільічовы сляды.

Павольна па Роне лебедзі-птахі,
Як крыгі плывуць, аздабляючы гладзь.
Жэнеўскія банкі (пампезныя гмахі)
Упэўнена ў люстра рачное глядзяць.

Даносяцца горнага ветра павевы,
Спяць Альпы паводаль за покрывам
хмар.
Над самаю Ронай, у сэрцы Жэневы
Стаіць старадаўняя вежа Малар.

І там,—
Падарожны, ідзі падзівіся,—
Відзён барэльеф.
Як выразна над ім:
«Жэнева—горад выгнаннікаў»—
высек
Умелец-разбяр на камені старым.
Пад надпісам выбіта майстрам жанчына,
Жэнева сама перад намі ўстае
І, гледзячы ў вочы выгнанніку, шчыра
Яму на знаёмства руку падае.

Глыбокай задумы,
Натхнення, любові
Выгнанніка твар пранізаны святлом.
Ды гэта ж, таварышы, Ленінскі профіль,
З кароткай бародкай, высокім чалом.

І гэтая вежа пад небам арліным
Уся—напамінак аб ім—Ільічы.
Так памяць аб самым вялікім і слынным
З выгнаннікаў горад рашыў зберагчы.

Час прыйдзе і сыйдзе Ільіч з барэльефа,
Кварталы знаёмыя зноў азірне.
Насустрач рабочая рыне Жэнева,
Агністая чырвань сцягоў шугане.

Пачнуць і хістацца тады і хіліцца
Жэнеўскія банкі ўсёй тоўшчай муроў,
Дзе ў сейфах працэнты пакапваюць,
Быццам
Гарачымі звонкімі кроплямі кроў.

Падыдзе да Роны Ільіч і да Арвы,
Туды завітае, дзе плешча Леман.
Жэнева ўбярэцца ў світальныя барвы,
Праніжуць яны і смугу і туман.

І простым жэнеўцам захочацца прагна
Ягонае слова пачуць,
І руку
Ільіч да народа прызыўна працягне
Бы ў Піцеры колісь на бранявіку.

У МАЙСТЭРНЯХ МАСТАКОЎ

Ул. БОЙКА

# ДРУГОЕ ДЫХАННЕ


Наталля Паплаўская.


Георгій Паплаўскі.

НАТАЛЛЯ і Георгій Паплаўскія, лаўрэаты прэміі Ленінскага камсамола Беларусі, перш за ўсё—майстры кнігі. Многа працуюць у станковай графіцы. А Георгій яшчэ і жывапісец. Раслі як мастакі разам з такімі вядомымі цяпер майстрамі, як Алена Лось, Арлен Кашкурэвіч, Марк Данцыг, Барыс Забораў, Уладзімір Стальмашонак, Гаўрыіл Вашчанка. Многае ў іх творчасці прадвызначана пошукамі крыху старэйшых Аляксандры Паслядовіч, Міхаіла Савіцкага, Віталя Цвірко, Натана Воранава, Леаніда Шчэмелева, Альгерда Малішэўскага. Кожны з названых мог бы сказаць, як і Георгій Паплаўскі: «Спрэчкі? Канечне, патрэбны. Але галоўныя аргументы ў спрэчках пра мастацтва—работы. Нельга не працаваць многа: з кожным днём часу—усё менш...»

І Паплаўскія працуюць. Гады тры—чатыры назад пра іх яшчэ можна было пісаць паасобку. А цяпер, хаця большасць работ падпісваюць яны не разам, не скінеш з рахунку шчырыя іх заўвагі адзін аднаму пры абмеркаванні кантрольных адбіткаў кожнага, а дзе трэба—актыўную творчую ўзаемадапамогу.

Наталліны рукі калісьці мялі гліну як трэба, трымалі стэку па-мужчынску. Можа ад першых крокаў у мастацтва—у скульптуру—і цяпер у майстэрні гліна, эскізы для керамікі. Кажуць, скульптары рысуюць, як багі. Ад погляду Наталлі не хаваюцца самыя найменшыя пагрэшнасці супраць рысунка ў жывапісе Георгія.

Здаецца, Георгій не спрабаваў займацца скульптурай. А ў жывапісе—лепіць. І ў графіцы... Цяжка ўявіць, але факт: тонкія інструменты графікі быццам прыкіпаюць да гэтых вялікіх з вузлаватымі пальцамі рук, і—калі трэба—танчэйшы карунак ліній!..

Супрацоўніцтва ў майстэрні Паплаўскіх грунтуецца не толькі на ўзаемадзеянні, але і на ўзаемаадштурхоўванні. Створанае разам адрозніваецца ад створанага і тым і другім паасобку.

У абодвух аднолькава асэнсаваная павага да народнай творчасці. Але ў выніку ў Наталлі ў работах на першым плане інтымна-казачны пачатак. у Георгія—былінны. У іх нямала пунктаў судакранання ў самой тэхналогіі графікі—фактурах, прыёмах, спосабах апрацоўкі матэрыялу і да т. п. У свеце ж эмоцый, у душэўным ладзе, наколькі ён выяўлены ў работах, дэмаркацыйную лінію хаця і не правядзеш, аднак адчуваеш: Наталля звяртаецца больш да адценняў, да нюансіроўкі эмоцый, Георгій — да абагульнення, да сімвалу. Лісты Наталлі часцей за ўсё—свет гармоніі, быццам чытаеш ясную, празрыстую прозу. Лісты Георгія—свет супярэчнасцей, неабходнасць пагружацца ў глыбіні духу, ускрываць падтэксты, пранікаць то ў імклівыя, то ў плаўныя цячэнні прозы «шматслойнай». Усё гэта, зразумела, не азначае, быццам работы Георгія зводзяцца да публіцыстыкі, пазбаўлены элементу інтымнасці, а работы Наталлі—гэткая бесклапотна-павярхоўная лірыка. Разуменне і наследаванне гуманізму народнай творчасці, дасканаласці народнай пластыкі, асваенне прыгажосці нацыянальнай самабытнасці захапляюць абодвух. Але кожны знаходзіць у гэтым невычарпальным багацці сваё, кожны па-свойму падпарадкоўвае традыцыю служэнню сучаснасці і да маўклівай размовы з гледачом ідзе сваім шляхам.

У майстэрні заўсёды розныя работы ў рознай стадыі выразшэння. Ад графікі Георгій пераходзіць да жывапісу, Наталля—да керамікі. Работа над складанымі серыямі эстампаў змяняецца не менш складаным канструяваннем кніжак для дзяцей. Дарэчы, самае высокае прызнанне грамадскасцю іх майстэрства—работа над падручнікамі для школьнікаў.

Думка пастаянна пульсуе, узбуджаная ўбачаным, абвостраная адчутым. Ім ёсць што сказаць. Прафесіянальнага майстэрства — не займаць. Тым не менш—вывяраецца кожны міліметр графічнага ліста! Выпакутаваны кожны паўтон. Кожная чвэрць тона. Для кампазіцыі мае значэнне кожнае «ледзь-ледзь»... І — толькі не крыклівы пафас, толькі не пратакол...

Для многіх работ Паплаўскіх характэрная «дынамічная статыка»—у процілегласць «статычнай дынаміцы». Быццам гавораць: «Спыніся, імгненне! Будзем не так любавацца табой, як пастараемся пранікнуць у тое патаемнае, жыццёва важнае, што ты часам хаваеш ад нас эфектамі руху...»

Не так даўно мы ўбачылі літаграфіі Паплаўскага «Памяць».

Вайна народная, свяшчэнная вайна... Смерць у імя жыцця... Пекла фашысцкіх канцлагераў... Набат народнае помсты... Матэрыялы надзвычайнай дзяржаўнай камісіі аб зладзействах гітлераўцаў... Беларусь—караючая...

Мова графікі не перакладаецца на мову слоў. Але аб мове «Памяці» варта, між іншым, заўважыць: з'явіся гэтая серыя гадоў пятнаццаць назад—наўрад ці трапіла б на выстаўку. І гэта карысна ўсвядоміць хаця б для адліку шляху, пройдзенага не адным толькі мастацтвам.

Унутраным зрокам не аднойчы кампанавалася ГЭТА. Але доўга не было штуршка, які б выплеснуў усё ў крокі, эскізы, чарнавыя адбіткі эстампаў... Мне здаецца, трэба было цераз многае прайсці, каб ГЭТА выспела ў адзіна непаўторнае. Бо немагчыма ПРА ГЭТА, напрыклад, той мовай—якою калісьці гаварыў Паплаўскі пра абаронцаў Брэста. І, зразумела, не ў адной мове справа. Так, не будзь яго падарожжаў у Атлантыку, на Кубу—хто ведае, ці з'явілася б «Памяць». Ён прыйшоў да «Памяці» і праз блакноты далёкіх падарожжаў, спярэшчаныя запісамі, замалёўкамі, адрасамі сяброў у самых розных кутках зямлі. У гэтых блакнотах—па словах Георгія, «эмацыянальных замалёўках у дарозе»—пульсаванне задумы.

Паплаўскія добра ведаюць, што ілюстрацыі для мастака—гэта магчымасць і выказаць сваё стаўленне да народных традыцый, і ўжыць матэрыял, які даюць бясконцыя паездкі. І іх ілюстрацыі багатыя вострай характарыстыкай персанажаў, насычаныя этнаграфічнай праўдай. Гаворачы аб ілюстрацыях, створаных імі разам і паасобку, падкрэслю не так адточанасць кампазіцыі, актыўную ролю колеру і друкарскага набору, прасторава-арганізуючых кніжны ліст у дэкаратыўную плоскасць, як арганічную падпарадкаванасць гэтых кампанентаў формы зместу—на дзіва дакладная суадпаведнасць, якая нараджае сапраўдны мастацкі вобраз.

Не графічнае апісанне, не механічны пералік дэталяў, а пошукі графічнага эквіваленту ўнутранаму ладу твора літаратуры ў самой выяўленчай мове: рытміка, пластыка, уласна графічныя акцэнты—на першым плане (дарэчы, у Паплаўскіх—не на шкоду «характарыстыцы персанажаў»). Гэта выдатна пацвярджаюць «Новая Зямля» Якуба Коласа, аформленая Георгіем, і раманы палескай хронікі Івана Мележа, аформленыя Наталляй. І кніжныя ілюстрацыі, і станковыя кампазіцыі Паплаўскіх вытрымліваюць доўгае разглядванне. Бо ім не чужы і апавядальны элемент. Праўда, якасна іншы, чым механічны пералік дэталяў, чым просты графічны пераказ. Гледачу даецца магчымасць не так прыгадаць тэкст, як, прыгадаўшы суперажываць з мастакамі адкрытае імі, падказанае ім жыццём. Жыццём, якое «перачытвае» на свой лад і казкі, і літаратурную класіку, і так званыя «вечныя сюжэты» мастацтва.

Для кожнага з гэтых дваіх важна адстаяць свой погляд на рэчы і падзеі, адзіны і непаўторны. Асабліва радуе, што яны адчуваюць небяспеку стаць рабамі ўласнай тэхнічнай аснашчанасці і не даюць сабе адпачынку—шукаюць перамены мастацкіх заняткаў, спалучаючы іх не толькі са штудыямі натуры, але і з максімальным далучэннем да жывога руху часу. Адкрываецца другое дыханне таленту: вастрыня выяўленчай формы прызнаецца толькі абумоўленая вастрынёй перажытага, адчутага, прапушчанага праз магічную прызму жыцця духу свайго сучасніка. Неацэнная для мастака здольнасць—не выдыхацца на дыстанцыі творчасці, не паўтараць сябе, упарта прасоўвацца наперад. Абое шчасліва адышлі ад некаторай разумовасці, уласцівай, на мой погляд, Георгію, напрыклад, у рабоце пра абаронцаў Брэста, а Наталлі — у ранніх лінагравюрах пра дзяцей (дзе, дарэчы, давала сябе адчуць пераадоленая ёю пазней саладжавасць). Непасрэднае адчуванне рэчаіснасці, якое мастакі культывуюць у сабе (так, так! мастаку гэтае адчуванне неабходна культываваць! яго лёгка можна страціць!), скарае ў работах Георгія, прывезеных з Атлантыкі, у лістах Наталлі на тэмы Палесся, у яе новых акварэлях, прысвечаных матывам Палангі, у новай карціне Георгія, прысвечанай нашым будням.

У накідах Георгія звычайна праступае будучы эстамп або жывапіснае палатно. Так, напрыклад, плён падарожжа Георгія ў Атлантыку на траўлеры «Малахіт» — самабытныя характары рыбакоў, занатаваныя ў партрэтах, у такіх кампазіцыях, як «Брыгада тралмайстра Туманава». Да

Георгій ВЫЛЧАЎ

ПІСЬМО З САФІІ

# МАЯ ОДА «МІНСКУ—32»

Гэтым машынам паэты—нашы і вашы—яшчэ нават радка не прысвяцілі. А яны, бадай, заслугоўваюць таго, каб спяваць ім гімны, складаць оды. Бо было так даўней, калі барды і вершатворцы апявалі кожны крок індустрыялізацыі, праслаўлялі першыя паравыя машыны, першую чыгунку...

Я ж сёння спяваю табе, «Мінск-32», машына-разумніца, што прыняла імя свайго роднага горада. Зараз яна тут, у нашай Сафіі дастойна прадстаўляе і Мінск, і ўсю індустрыяльную Беларусь. Прыйшла да нас служыць верай і праўдай і найлепшым чынам услаўляе сваіх стваральнікаў, таленавітых беларускіх вучоных і інжынераў. Можа таму, што яна сярод сяброў, машына не падводзіць. Відаць, задаволена яна сваімі новымі гаспадарамі.

Я ўсё пішу ў адзіночным ліку... А іх жа, гэтых электронных машын у нас не адна. Стаяць сабе, з месца не скранаюцца, а ўплыў іх на розныя бакі нашага жыцця вельмі значны. Шкада ўсё-такі, што я не паэт, не складу гэтым машынам гімна. А так бы хацелася, так усхвалявалі мяне расказы новых гаспадароў іх! Машыны гэтыя, прадстаўнікі самых вышэйшых сфер сучаснай тэхнікі, не нарадзіліся без сучаснага мыслення. І хіба могуць яны быць бяздумнай, мёртвай субстанцыяй, калі сведчаць аб такім узроўні духоўных зносін нашых народаў, сувязей лепшых мысліцеляў, спецыялістаў і вучоных.

— Ужо каторы год,—сказаў мне М. Гончаў, рэферэнт па СССР у балгарскім Камітэце па навуцы і тэхнічным прагрэсе, — шпарка развіваюцца нашы сувязі з савецкімі (і з Мінскім, у першую чаргу!) электронна-вылічальнымі цэнтрамі і адпаведнымі арганізацыямі. Дзесяткі нашых інжынераў і тэхнікаў прайшлі навучанне пры вылічальных машынах у Мінску. Усе нашы электронна-вылічальныя цэнтры маюць праграму сумеснай работы. І наогул 85 працэнтаў усяго нашага супрацоўніцтва ў галіне электронікі прыпадае на савецкія цэнтры...

Я доўга выбіраў, які б з балгарскіх вылічальных цэнтраў наведаць. У Акадэміі навук? Або ў якім міністэрстве ці ведамстве? І спыніўся на самым маладым калектыве з самым маладым дырэктарам—вылічальным цэнтры пры Камітэце па навуцы і тэхнічным прагрэсе, які размясціўся паблізу новага нашага завода электронікі на ўсходзе сталіцы. Дырэктар, інжынер Танеў, як і ўсе супрацоўнікі цэнтра, вялікі ваш друг. Ён добра ведае і Мінск, і Беларусь—месца нараджэння сваіх падапечных

гонару мастака, ён падкрэслівае велічнае, рамантычнае ў сваіх героях, паспяхова мінаючы знешне рамантычнае, якое—на мяжы з экзотыкай. Нездарма так добра сустрэў глядач эстампы серыі «Здабытчыкі», дзе традыцыйную тэму Паплаўскі ўспрыняў па-свойму і па-свойму вытлумачыў. Сапраўды спелае стаўленне да жыцця. Праўда. Рэалізм.

Вось і ў «Памяці»—аптымістычная трагедыя, грозная рамантыка ўсенароднай барацьбы не праз знешне-гераічнае, а праз сутнаснае, уласцівае нацыянальнаму характару выхаванага Кастрычнікам і сацыялізмам беларуса.

І—як і ў Георгія—у Наталлі адно дапаўняе другое. Без афармлення раманаў Івана Мележа «Людзі на балоце» і «Подых навальніцы» не гучалі б гэтак пераканаўча яе лісты «Нядзеля», «Размовы» і многія іншыя. Без вопыту работы над эстампамі пра астраханскіх рыбакоў не былі б, напэўна, настолькі паэтычныя, непаўторна індывідуальныя яе лісты на тэмы беларускіх казак.

Нацыянальнае для Паплаўскіх — не сінонім этнаграфіі. Хаця этнаграфію яны засвоілі выдатна, этнаграфію, не застылую ў мінулым, а рухомую —яны не стылізацыяй займаюцца, а імкнуцца выказаць дух беларуса-сучасніка ва ўсёй разнастайнасці яго сувязей са светам. Не выпадкова, напрыклад, у ілюстрацыях Георгія да «Новай Зямлі» Якуба Коласа і Наталлі да хронікі Івана Мележа этнаграфічнае скарыстана з неабходным тактам. Дарэчы, «Новую Зямлю» Коласа ілюстравалі розныя мастакі, у тым ліку Анатоль Волкаў і Арлен Кашкурэвіч. Георгій знайшоў свой графічны эквівалент твору. У Волкава—акварэль. У Кашкурэвіча—літаграфія. У Паплаўскага—афорт. Паэма дае магчымасці вытлумачэння рознай выяўленчай мовай. Знойдзенае Паплаўскім, не паўтараючы прачытанае Волкавым і Кашкурэвічам, - падкрэслівае эпічныя матывы твора паэта. У той час, як у Кашкурэвіча вядучае—лірыка, у Волкава—бытавы пачатак. Ёсць у Паплаўскага і літаграфскі трыпціх «Новая Зямля». Мне здаецца, ці не занадта блізкі ён да мовы «Памяці»?..

Бывае, што віртуознасць асвоенага прыёму і ў Паплаўскіх наносіць страты думцы, пачуццю, ператвараецца няхай не ў самамэту, дык у прадмет залішняга любавання. Аднак, прага сустрэч з людзьмі, прага падарожжаў, прага пазнання з першых рук, каб і мастацтва не было другасным, прыходзіць на паратунак—гэтая прага прыводзіць Паплаўскіх і ў Інстытут ядзернай фізікі, і ў глухую вёсачку дзе-небудзь на Гродзеншчыне або Віцебшчыне, і да самых юных аматараў мастацтва. І ўсюды блакноты запаўняюцца «канспектамі жыцця». Паплаўскім заўсёды няма часу. Заўсёды спяшаюцца. Але ў майстэрні спяшаюцца... не спяшаючыся. Ці не пра гэта гавораць работы?..

Часам іх папракаюць за ўскладнёнасць мовы. Мне здаецца, іх ускладнёнасць—праясняе сутнасць, а не маскіруе неадчутае, неперажытае. Складаныя характары, складаная пластыка, складаныя рытмы, складаныя структуры вобразаў, складаныя фактуры... І ўся гэта складанасць падпарадкавана прастаце — не спрошчанасці!

Планы? Новыя работы? Будуць. Ужо ёсць. І—не пакінуць раўнадушнымі нікога...

Дарэчы, авалодвае цяжкай прафесіяй мастака дачка Паплаўскіх.

Добра б напісаць калі-небудзь трайны партрэт...



Пройдзе час — і рыштаванні будуць зняты.

# РЫШТАВАННІ НА ВЕЖАХ



На вышыні семнаццаці паверхаў працуюць бляхары В. Ступак, В. Курбота.



Самая высокая «кропка»... Адсюль наваколле — як на далоні.

Чатыры Сафійскія саборы былі пабудаваны ў свеце...

Першы ў Канстанцінопалі, другі ў стольным горадзе Кіеве, трэці на нашай зямлі, у сталіцы магутнага княства Полацкага, чацвёрты на Наўгародскай зямлі...

Полацкая Сафійка, як вядома, не захавала першароднага выгляду. Яна перажыла шмат перабудоў, рэканструкцый. Акрамя таго, войны і час таксама не пайшлі ёй на карысць.

Два гады назад спецыяльныя навукова-рэстаўрацыйныя майстэрні Міністэрства культуры БССР пачалі рэканструкцыю і рэстаўрацыю гэтага славутага помніка беларускай культуры.

У Полацк была накіравана комплексная брыгада будаўнікоў і рэстаўратараў пад кіраўніцтвам Міхаіла Данкова.

Нядаўна я быў у Полацку, спускаўся ў глыбокія лабірынты падзямелляў сабора, узбіраўся на рыштаванні, гутарыў з рабочымі...

На вышыні, ад якой займае дух (не жартачкі—семнаццаць паверхаў), працуюць бляхары Віктар Ступак і Васіль Курбота. Яны крыюць купалы медным лістом. Амаль скончылі работу тынкоўшчыкі і маляры. Вельмі складаная стаяла перад імі задача. На ўнутраных сценах былі знойдзены фрэскі, напісаныя аж у XI стагоддзі. Не пашкодзіць іх, зберагчы — вось аб чым клапаціліся рабочыя. У хуткім часе павінна прыехаць у Полацк група архітэктараў, рэстаўратараў пад кіраўніцтвам прафесара Каргера, якая і зоймецца аднаўленнем старажытных фрэсак...

Не такі ўжо далёкі час, калі будуць зняты рыштаванні з прыгожых, на дзіва прапарцыянальных вежаў старажытнага сабора. Паедуць рабочыя. І людзі зноў здолеюць любавацца ззяючымі купаламі, цудоўнымі скульптурамі, багатым аздабленнем Полацкай Сафійкі—аднаго з самых старажытных і знакамітых помнікаў славянскай культуры.

**У. ЯРМОЛІЧ,**
**студэнт БДУ.**

Фота аўтара.

машын, а яшчэ ведае іх стваральнікаў.

Інжынер Танеў вельмі ахвотна, проста з любоою расказаў мне пра машыны «Мінск-32» і іх стваральнікаў. «Мінск-32» можа адначасова распрацоўваць заданні па 4, 8 і нават 12 праграмах. А потым ён пераадолеў у сабе інжынера-спецыяліста і пачаў расказваць аб людзях. Размову нашу, пакінуўшы на некаторы час свае заняткі, слухалі маладыя супрацоўнікі. І я чытаў у іх пацяплелых ад напамінкаў вачах, што ўсе яны маюць ад сталіцы Беларусі цудоўныя ўражанні.

— Наш цэнтр выконвае ў асноўным заданні, пастаўленыя яму Камітэтам па навуцы і тэхнічным прагрэсе, — расказваў Танеў.—Разлікі, выкананыя на машынах «Мінск-32», дапамагаюць лепш планаваць развіццё народнай гаспадаркі нашай краіны, планаваць навукова-тэхнічны прагрэс. Адпрацоўваем усю эканамічна-гаспадарчую інфармацыю для патрэб самога Камітэта. Да адкрыцця эксперыментальна-вылічальнага цэнтра ў дзяржаўна-гаспадарчым аб'яднанні «Ізот» наш цэнтр выконваў і яго функцыі. Карацей—работы многа.

— Цікавіцеся, — працягваў таварыш Танеў,—аб'ёмам нашага супрацоўніцтва з Мінскам? Прывяду лепш такую паралель: каэфіцыент нашага супрацоўніцтва можна параўнаць з аб'ёмам супрацоўніцтва Мінска з Польшчай. У 1970 г. Польшча закупіла дзесяць электронна-вылічальных машын «Мінск-32», а мы дзевяць. Не менш падрыхтавалі мы і перападрыхтавалі спецыялістаў у Мінску. Навучанне нашых інжынераў-праграмістаў як і польскіх, на мінскім заводзе праходзяіць у пяць этапаў. Па прыкладзе ГДР, Польшчы, Чэхаславакіі ў студзені мы падпісалі пратакол аб размене з Мінскам рабочых груп інжынераў-праграмістаў і тэхнікаў. Такіх нашых груп у Мінску было ўжо некалькі, знаходзіліся там па два з паловай—тры месяцы. Сёлета апошняя група паедзе 16 лістапада—для трох новых машын. Усе нашы спецыялісты хутка пачынаюць разбірацца ў складанай будове машын, навучаюцца аператарскай рабоце. Прыязджаюць, канечне, да нас і спецыялісты з Мінска. Карацей, аб нашых дзелавых адносінах магу сказаць, што лепшых і ўявіць сабе не магу.

А потым размова ў нас зайшла ўвогуле пра Мінск. Усе, хто ўдзельнічаў у гутарцы, прызналі, што ў Мінска і Сафіі шмат агульнага і падобнага, асабліва ў будаўніцтве.

Цудоўны ў Мінску Музей гісторыі Айчыннай вайны. Цудоўныя мінчане —сціплыя, працавітыя.

— Я і мае калегі адчувалі сябе там як сярод самых блізкіх сяброў,—сказаў таварыш Танеў.—Вось бачыце, колькі я вам нагаварыў і не пакінуў нават часу для маіх калег.

І ўсе на гэта ўсміхнуліся: нічога, іх калега, друг і дырэктар сказаў за ўсіх, сказаў добра.

— Напэўна ніхто скора не прыедзе да нас папрасіць аб такой размове, вы першы дадумаліся да гэтага. Дык перадайце прывітанне нашым беларускім сябрам...

Вось я і перадаю гэтым пісьмом іх прывітанне і свае шчырыя, найлепшыя пажаданні.

І сумна, што мне прыпісалі першынство. Творцы мастацтва і літаратуры часцей узаемна сустракаюцца, абменьваюцца думкамі і пачуццямі. Чаму б не сустракацца часцей і нашым навукова-тэхнічным работнікам? А яшчэ я думаў пра тое, што нашы літаратары, дый, мабыць, і вашы мала ведаюць кола сваёй тэхнічнай інтэлігенцыі. А колькі сярод іх выдатных, каларытных людзей! Як бы выйгралі нашы літаратуры, каб на старонках раманаў і аповесцей паявіліся яркія вобразы гэтых вучоных, інжынераў, творцаў новай тэхнікі! Хіба не варта для гэтага працаваць?!

Сяргей ПЕТЭРСОН

# ФІНСКІЯ ЭЦЮДЫ

**9-га лістапада ў Мінску пачынаюцца Дні фінскай культуры. А роўна год таму ў Фінляндыі адбываліся Дні культуры Беларусі. У той час там з выстаўкай беларускага выяўленчага мастацтва знаходзіўся мастацтвазнаўца Сяргей Петэрсон. Сёння мы прапануем вашай увазе яго нататкі пра паездку ў Фінляндыю, пра фінскія сустрэчы.**



Гэта — эмблема Дзён беларускай культуры ў Фінляндыі... Хвацкі хлапчына, вось толькі чаму ў чаркесцы?..

## СПАЧАТКУ ЕДЗЕМ У ТУРКУ, ПАСЛЯ — ПАВАРОЧВАЕМ НАЗАД...

Ну вось і Выбарг — апошняя станцыя перад граніцай... У нас яшчэ раз праверылі паперы, пажадалі шчаслівай дарогі—і поезд ціха рушыў. Мы прыціснуліся да вокнаў, каб убачыць, якая яна—граніца, той рубеж, за якім пачынаецца іншазем'е. Але за акном было цёмна, толькі кроплі сумнага асенняга дажджу чарцілі блытаныя дарожкі па запацелым шкле, ды ўздоўж палатна мігцелі чорныя сілуэты векавых соснаў...

Цягнік грукатаў па стыках. Было дзіўна ад думкі, што нейкі з гэтых стыкаў ляжыць на нашай зямлі, а наступны ўжо на фінскай...

Некалькі гадзін язды—і мы ў Турку. Адсюль трэба дабірацца ў Ювяскюля, дзе і павінны ў асноўным праходзіць Дні беларускай культуры ў Фінляндыі, дзе будзе разгорнута выстаўка беларускага выяўленчага мастацтва, якая пакуль што ляжыць, акуратна запакаваная ў вялікія скрыні, недзе ў багажы.

Выйшлі з вагона. Дождж... Усё той жа дробны дождж, зусім такі, як і ў Выбарзе... Хто ж нас сустракае? Ага, відаць, тыя двое, што бы марафонцы на пачатку дыстанцыі, плячо да пляча бягуць з дальняга канца платформы проста да нас.

— Дзень добры! Мы рады вітаць вас на фінскай зямлі! Давайце знаёміцца — мяне завуць Тэа Алава, а гэта Маці Лінд. Мы прадстаўнікі таварыства «СССР—Фінляндыя»—і вы з сённяшняга дня паступаеце ў наша распараджэнне, — жартуе сталы, ладны шатэн Тэа Алава.

Адлегла ад сэрца. Добра, што яны так здорава размаўляюць па-нашаму, бо мы, шчыра кажучы, акрамя «кіітош»—дзякуй, па-фінску—ні слова. З такімі ведамі, як кажуць, далёка не паедзеш...

Знаёмімся. І адразу ж, з першых слоў, разумеем, што працаваць з гэтымі хлопцамі будзе прыемна. Не толькі таму, што ведаюць мову і настроены да нас надзвычай добразычліва, але і таму, што пачуццё гумару ў іх таксама «на ўзроўні»...

Ля вакзала чакаў камфартабельны аўтобус, прыгожы і ладны. Ён пагойдваўся, здавалася, ад самага малога дотыку. На ім і паехалі мы ўздоўж чыгуначнага палатна... назад, туды, адкуль толькі што прывёз нас цягнік. Гэта было вельмі смешна. Але Тэа сказаў, што так і трэба, што так бліжэй да шашы Турку — Ювяскюля...

— Дарэчы, — заўважыў ён, — гэта шаша праходзіць цераз раёны, якія лічацца тыповай Фінляндыяй. Так што не губляйце часу... За акном — Фінляндыя,—закончыў ён жартаўліва.

Прырода, змучаная дажджамі і вятрамі, страціла ўжо яркасць фарбаў. Набыла адценне старой медзі. Заімшэлыя рознаколерныя валуны і бурыя гранітныя сопкі з каржакаватымі соснамі на вяршынях падступалі да дарогі з абодвух бакоў. Часамі аўтобус вырываўся з каменных калідораў і шпарка праносіўся то міма маленькага азярца, то міма зжатага поля альбо смарагдава зялёнай паляны з чырвонымі каровамі. Гэта прыгажосць здзіўляла эфектамі хуткай кампазіцыйнага парадку. За кожным паваротам адкрываліся такія «пастаноўкі», што нашы мастакі спачатку не адрываліся ад блакнотаў, але потым, відаць, стаміўшыся, схавалі фламасцеры і проста глядзелі, войкалі і ўсплёсквалі рукамі.

Тры гадзіны праляцелі непрыкметна. І вось—Ювяскюля, галоўны горад цэнтральнай Фінляндыі.

## АТРЫМЛІВАЕМ КЛЮЧЫ АД МУЗЕЯ І ШУКАЕМ НАЧАЛЬСТВА...

Ювяскюля нагадаў мне Навапалацк. Чыстыя, утульныя кварталы ўпіраюцца ў маляўнічыя азярцы, акаймаваныя каляровай мазаікай лодак і яхт.

Рэзкі вецер прыгаршчамі кідаў на ваду жоўтае лісце, камячыў блакітнашэрае люстра яе, зрываў капелюшы, звінеў у тэлевізійных антэнах, нагінаў долу дрэвы — здавалася, каб не вывескі на незнаёмай мове ды аўтамабілі нязвыклых марак, можна было б падумаць, што мы ў нейкім нашым новым мікрараёне.

Музей цэнтральнай Фінляндыі, дзе мы павінны былі разгарнуць выстаўку, уяўляў сабой складанае архітэктурнае збудаванне ў стылі «мадэрн». Спраектаваны славутым Алварам Аалта, старанна спланаваны і віртуозна «прычэплены» да натуральнага схілу гары, будынак гэты складаў уражанне аднапавярховага. Праз рэдкія сосны нельга было заўважыць яшчэ двух паверхаў, размешчаных вышэй і ніжэй відочнага. Гэты архітэктурны алагізм на першы погляд здаваўся забаўным, нічым не апраўданым дзівацтвам архітэктара. Але хутка мы ўсвядомілі яго строгую падпарадкаванасць функцыянальным асаблівасцям будынка. Архітэктар бліскуча вырашыў галоўную задачу— аўтаномнасць выставачных памяшканняў. Усе тры паверхі музея маюць свае пад'езды. А гэта азначае, што экспанаты ў залежнасці ад прызначэння і характару выстаўкі, можна выгружаць у любым з іх так, што гэта не перашкаджае рабоце ўсяго музея.

У адведзеных для нашай выстаўкі залах было ўсё, што трэба для арганізацыі экспазіцыі. І хоць усё гэта мы прывезлі з сабой, але ўвага была вельмі прыемнай. Тэа і Маці пазнаёмілі нас з кіраўніцтвам музея. Нам уручылі ключ да нашага паверха. Ветліва спыталі, ці не маем у чым патрэбы. Пацікавіліся, як мяркуем разгарнуць экспазіцыю. Далі парады наконт асаблівасцей асвятлення і... больш кіраўнікоў музея, мы бадай, не бачылі. Самі развешвалі карціны. Самі заказвалі подпісы да іх. Самі нават зачынялі музей, калі канчалі работу.

Некалькі дзён напружанай працы—і вось мы, нібы нанава, убачылі прывычныя для нас творы беларускіх мастакоў: мяккае, але даволі моцнае, змешанае (дзённае і штучнае) асвятленне пераўтварыла іх. Яно вельмі трапна падкрэсліла тонкую каларыстыку нашага паважанага Івана Осіпавіча Ахрэмчыка, звінячыя, напорыстыя фарбы Мая Данцыга, віртуознасць майстэрства Віталя Цвірко, пругкія, як спружыны, лініі графічных лістоў Арлена Кашкурэвіча. З задавальненнем заўважалі мы ўсё новыя і новыя вартасці нашых «экспанатаў». Спадзяваліся, што і для фінскіх гледачоў яны не застануцца незаўважанымі.

Нарэшце з'явіліся першыя гледачы.

## ШКОЛЬНІКІ КЛАДУЦЦА ПРОСТА НА ПАДЛОГУ. СТУДЭНТЫ НАМАГАЮЦЦА «ЗАЗІРНУЦЬ У КОРАНЬ». МАСТАКІ СПРАЧАЮЦЦА...

Першымі прыйшлі школьнікі. Яны шумнай чарадой уварваліся ў залу, пахапалі каталогі і, круцячы галовамі налева і направа, арыентаваліся. Потым па адным, уважліва і сур'ёзна пераходзілі ад карціны да карціны, часта зазіраючы ў каталогі. Калі выстаўка была прагледжана ад пачатку да канца, а некаторыя работы, з дзіцячай непасрэднасцю, нават, абнюханы, усе сабраліся ў цэнтры залы, зручна размясціліся адзін ля другога проста на падлозе і пачаўся абмен думкамі. Тут высветлілася, што сярод школьнікаў была і настаўніца — маладзенькая кволая дзяўчына. Ад сваіх вучаніц яна адрознівалася хіба толькі тым, што не легла разам з імі на падлогу, а засталася стаяць. У агульнай размове, яна, відаць, не адыгрывала ніякай выключнай ролі, гаварыла не часцей і не больш за другіх, безагаворачна прызнаючы самастойнасць і падрыхтаванасць сваіх падапечных. Было зразумела, што дзеці — вопытны глядач, што наведванне выставак для іх — не выпадковасць, што яны любяць глядзець і разумеюць жывапіс. Гэта пацвердзілася ў наступныя дні работы выстаўкі: за дзесяць дзён яе наведала сорак адна група школьнікаў рознага ўзросту. Гутаркі з імі прыносілі шмат новага, цікавага і нечаканага.

Былі і іншыя сустрэчы, іншыя размовы...

Аднойчы прыйшоў на выстаўку «сур'ёзны» барадаты студэнт, які адразу заўважыў, што карціна В. Цвірко «Над Нёманам» напісана не на палатне, а на драўлянай пліце і ўпарта хацеў калупнуць яе пазногцем, каб нешта для сябе высветліць...

Былі і тры японскія студэнты, якія вучыліся ў мясцовым універсітэце. Яны з'явіліся на выстаўку, як у цырк, крыўляліся перад кожнай карцінай, прыцягваючы ўвагу і выклікаючы незадавальненне наведвальнікаў.

Але па-сапраўднаму цікавымі былі наведванні выстаўкі мастакамі. Яны не ўтойвалі непрыймальнасці для іх рэалістычнага метаду ў мастацтве, але з вялікай павагай ставіліся да прафесійнага майстэрства нашых мастакоў, грунтоўна і сур'ёзна абмяркоўвалі вартасці і недахопы карцін. Адзін з іх адкрыта прызнаўся, што яго сімпатыі заўсёды былі на баку рэалізму, хаця сам ён працуе ў «іншым ключы». Не, ён не абстракцыяніст у поўным сэнсе гэтага слова, але лічыць, што рэалісты, гэтак жа, як і абстракцыяністы, многа, маўляў, трацяць, застаючыся на супрацьлеглых полюсах. Яго намаганні скіраваны на тое, каб прымірыць іх...

Ідэя не вельмі арыгінальная. Вырашэннем яе зараз заняты многія мастакі на Захадзе, але нешта не даводзілася чуць, каб каму-небудзь гэта ўдалося. Пакутлівы працэс раздваення мастака на Захадзе мы назіралі ўвачавідкі. Нястрымны, крайні фармалізм у творах «для ўсіх», з аднаго боку, і работа крадком, у зачыненай майстэрні, «для сябе», з другога — ці не трагедыя гэта для мастака?! Больш таго, тайная любоў да «старога, добрага рэалізму», аб якой сарамліва гаварылі нам фінскія мастакі, аказалася любоўю заганнай. Пад выглядам рэалізму яны часта выдаюць узоры такога махровага натуралізму, што глядзець на гэта і балюча і смешна.

— Абстракцыянізм складаны для ўспрыняцця, але просты як метад,— тлумачыў мне адзін мастак. — Таму мне неабходны практыкаванні ў рэалістычным пісьме, каб захаваць адчуванне формы. Калі мы вучымся маляваць, мы таксама «нармальныя мастакі» — малюем гіпсы, пастаноўкі, натуршчыкаў, нават выязджаем на эцюды. Але як толькі выходзім са сцен навучальнай установы, вымушаны забыцца на ўсё, чаму вучыліся. Мы губляем вялікую частку майстэрства, таму што не карыстаемся ім. А шкада!..

Так! Шкада!

Шкада, што марна траціцца энергія, талент, прафесіяналізм, што мастакі вымушаны ўсім ладам жыцця займацца не тым, да чаго ляжыць іх душа, а нечым, што да сапраўднага мастацтва мае даволі прыблізнае дачыненне.

## ПРА НАС ПІШУЦЬ, НАС ХВАЛЯЦЬ, НАМ РОБЯЦЬ ЗАЎВАГІ...

Нарэшце, праз дзень-другі мы ўбачылі ў мясцовых газетах, якімі нас забяспечваў Тэа, фатаграфіі з выстаўкі, рэпрадукцыі з твораў нашых мастакоў, рэцэнзіі. Аб'ектыўныя ацэнкі твораў і добразычлівы тон газет сведчылі, што Дні культуры Беларусі праходзяць паспяхова. Некаторыя карціны нашых мастакоў былі грунтоўна разабраны крытыкамі і атрымалі высокую ацэнку. У газетах былі змешчаны рэпрадукцыі твораў М. Данцыга «Мой горад», У. Стальмашонка «Якуб Колас», Д. Алейніка «Гомель. Порт», К. Касмачова «Незабыўнае», А. Кашкурэвіча «Майстры», А. Паслядовіч «Рабочы Полацкага нафтабуда» і інш. А творчасці М. Савіцкага быў прысвечан нават асобны артыкул з рэпрадукцыяй «Партызанскай мадонны» (хоць гэтай карціны на выстаўцы і не было).

Былі і рэзка крытычныя выступленні газет (добры Тэа прадбачліва хаваў іх ад нас), у якіх гаварылася аб нізкім афарміцельскім узроўні нашых выставак наогул і, у прыватнасці, аб выстаўцы вырабаў мастацкай прамысловасці, якая экспанавалася ў Хельсінкі ў выставачнай зале «Дэзайн Сентэр». Аўтар артыкула пісаў: «Асабіста я прыйшоў да адчаю ад арганізацыйнай безгустоўнасці, якую я ўбачыў сваімі вачыма...» і ён бязлітасна тыцкаў пальцамі ў самыя слабыя месцы прамысловай выстаўкі і іранічна заканчваў: «У гэтай непрыбранай мешаніне з тэкстылю афарміцелям выстаўкі не ўдалося схаваць узоры сапраўднага мастацтва, якія сумяшчалі ў сабе непасрэднасць і жыццесцвярджальнасць, характэрныя для народнага мастацтва, якія кідаліся ў вочы».

Самае непрыемнае ў гэтых радках тое, што яны слушныя. Звярніце ўвагу: рэзкую крытыку выклікала не тое, **што** мы паказалі, а тое, **як** паказалі. У краінах Захаду арганізацыя выставак і іх афармленне ўзведзены ў ранг мастацтва. Ні адна выстаўка (нават не мастацкая) немысліма там без удзелу архітэктара і мастака (мастацтвазнаўцы). Афарміцеляў выставак там нават папракаюць за «бессэнсоўнае эстэцтва», якое адцягвае ўвагу гледача. Зразумела, што выхаваны на высокіх узорах афарміцельскага мастацтва глядач, нават вельмі зычлівы, не мог не заўважыць прымітыўнай самадзейнасці ў арганізацыі і афармленні нашых выставак. Але гэта, як кажуць, пытанне сур'ёзнае, вартае таго, каб аб ім гаварыць асобна...

## ФІНСКІЯ МЕЛАМАНЫ ТРАПЛЯЮЦЬ У ПАЛОН, А МЫ РАДУЕМСЯ ПОСПЕХУ НАШЫХ МУЗЫКАНТАЎ...

«Спявае Віктар Вуячыч». Гэта афіша паведамляла студэнтам універсітэта аб тым, што ўвечары ў іх клубе



Каб не надпісы на незнаёмай мове, можна было б падумаць, што мы ў нейкім нашым мікрараёне.

